


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

5 СТУДЗЕНЯ 2001г. № 1/4085 КОШТ 115 РУБ.







*Па белым снезе ў Новы век...*

Фота Я. КОКТЫША.



# КОЛА ДЗЁН

***Прайшло ўжо пяць дзён, як стала гісторыяй дваццатае стагоддзе... Стагоддзе крывавых войнаў і рэвалюцый... Стагоддзе узнікнення Савецкага Саюза і яго развалу... Стагоддзе, у якім наша краіна стала незалежнай Рэспублікай Беларусь. У час навагодняга звароту прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі да беларускага народа прагучала: "Сёння на пытанне "хто вы?" ужо не пачуеш невыразнае: "Мы — тутэйшыя". У адказ абавязкова прагучыць гордае: "Мы — беларусы". Пры ўсіх спрэчках і разнастайнасці меркаванняў сёння неаспрэчнае адно — суверэнітэт Беларусі. І што б ні гаварылі сёння некаторыя безадказныя палітыканы, мы не збіраемся "прадаваць" наш суверэнітэт ні Захаду, ні Усходу... Мы і ў далейшым будзем умацоўваць нашу незалежнасць, зыходзячы выключна з нацыянальных інтарэсаў". І каб гэтыя словы прэзідэнта Беларусі былі не толькі словамі, а явай, залежыць ад кожнага з нас, каму жыць і працаваць у 21 стагоддзі, у якое наша краіна ўвайшла незалежнай Рэспублікай Беларусь.***

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна споўнілася 100 гадоў, але яна даўноператварылася ў інфармацыйны, культурна-асветніцкі, грамадскі цэнтр. У гэтым вялікая заслуга ўсіх яе былых кіраўнікоў — Н. Розум, Н. Балуковай, Н. Куцэнкі, Т. Рашчынскай і асабліва цяперашняга дырэктара Наталлі Чуевай. У кніжным фондзе бібліятэкі на сённяшні дзень каля 740 тысяч экземпляраў кніг, якімі карыстаецца больш за 50 тысяч чытачоў. Паступова бібліятэка пераходзіць на новыя інфармацыйныя тэхналогіі. З 1996 года дзейнічае электронны каталог. Кнігі, зразумела, у бібліятэцы самі па сабе не з'яўляюцца. Іх выпускаюць выдавецтвы. І, відаць, у "Пушкіных" нямала кніг выдавецтва "Юнацтва", якое ў гэтыя дні святкуе сваё 20-годдзе. Віншуем супрацоўнікаў і чытачоў "Пушкінкі" і "Юнацтва" з юбілеямі і жадаем і надалей быць у першых шэрагах асветнікаў нашай краіны!

## ПРАЕКТ ТЫДНЯ

Напрыканцы мінулага года ў нашу краіну прыязджаў кіраўнік адміністрацыі Ненецкай аўтаномнай акругі Расійскай Федэрацыі. Прыязджаў не проста, каб пагаварыць пра жыццё-быццё і інтэграцыю, а па канкрэтнай справе — наша краіна сумесна з Ненецкай акругай распрацоўвае праект па асваенні новых участкаў нафтавых радовішчаў на тэрыторыі краю. У час сустрэчы кіраўніка адміністрацыі аўтаномнай акругі з прэзідэнтам Беларусі былі абмеркаваны пытанні аб вядзенні пошуку і разведкі нафты, а таксама шэраг іншых пытанняў, звязаных з сумесным выкарыстаннем багаццяў Сібіры. Хацелася б, каб супрацоўніцтва Беларусі з Ненецкай аўтаномнай акругай Расійскай Федэрацыі было не толькі на паперы, бо, як сказаў кіраўнік адміністрацыі паўночнага краю Уладзімір Бутаў, "з Беларуссю можна працаваць не горш, чым з вядомымі замежнымі кампаніямі". Але...

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

У нашай краіне дзейнічае 76 маладзёжных і дзіцячых аб'яднанняў, з якіх 17-ці, зарэгістраваных у рэестры Мінюста, аказваецца ў той ці іншай ступені дзяржаўная падтрымка. Саму рэалізацыю дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі (будаўніцтва жылля, стварэнне працоўных месцаў, студэнцкіх атрадаў, правядзенне спартыўных спаборніцтваў, конкурсаў, фестываляў і г.д.) прызнана цалкам здавальняючай 15,6 працэнта маладых людзей (у 1997 годзе такіх было толькі 2,3 працэнта). Цалкам нездавальняючай яе лічаць 14,4 працэнта. У той жа час колькасць моладзі, якая ўдзельнічае ў арганізаваным маладзёжным руху, застаецца нязначнай. Так, у 3317 навучальных установах з агульнай колькасцю навучэнцаў 1816476 чалавек у маладзёжных і дзіцячых грамадскіх аб'яднаннях удзельнічае 295 тыс. 743 чалавекі, што складае 16,3 працэнта. У Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыі знаходзіцца 9,7 працэнта моладзі, у Беларускім патрыятычным саюзе моладзі — 5,6 працэнта, у Беларускім саюзе моладзі — 1 працэнт. Словам, няма таго, што раньш было...

## ДАБРАЧЫННАСЦЬ ТЫДНЯ

На сёння ў нашай краіне налічваецца каля 30 тысяч дзяцей-сірот. І гэта не самыя горшыя дзеці Беларусі. І таму, каб і ім Новы год быў сапраўдным святам, у рамках дабрачыннай акцыі "Нашы дзеці" ў навагоднія дні ў школах-інтэрнатах і дамах інвалідаў Мінска прайшлі святочныя мерапрыемствы, падчас якіх дзецям было перададзена больш як 27 тысяч падарункаў.

## ФАКТЫ ТЫДНЯ

У нашай краіне з 13,9 у 1990 годзе да 9,3 у 1999 на тысячу насельніцтва паменшылася нараджальнасць і з 10,7 да 14,2 павялічылася смяротнасць, на 94 тысячы родаў прыпала 135 тысяч абортаў. Лічбы гавораць самі за сябе...

## НАВІНКА ТЫДНЯ

Напярэдадні Новага года мінскі завод шампанскіх він выпусціў два новыя віды ігрыстых він "Князь Вітаўт" і "Траецкае ігрыстае". Яны, па сваёй сутнасці, з'яўляюцца тымі ж шампанскімі вінамі, што і "Савецкае шампанскае", толькі пры выпуску гэтых новых він вінаробы дазволілі сабе прыўнесці ў тэхналогію вытворчасці новыя рэцэпты і распрацоўкі. У 2001 годзе завод шампанскіх він мяркуе пачаць выпуск шампанскага ў бутэльках у паўтара і тры літры. Так што новы год некаторыя жыхары нашай краіны сустрэлі з "Князем Вітаўтам".

## КУР'ЁЗ ТЫДНЯ

Чаго толькі ні бывае ў перадНавагоднія святы! Але, відаць, такога яшчэ не было — жыхарцы Рэчыцы Нэлі Ключнікавай на свята з горада Сухумі прыйшла паштоўка, адпраўленая ёю ж самой 19 жніўня 1988 года. У той далёкі дзень Н. Ключнікава адпачывала на Чарнаморскім узбярэжжы і вырашыла падаць вестку аб сабе дачцэ. Дзе ўвесь гэты час паштоўка блукала — ніхто не адкажа, але савецкая і наша пошта паказалі, як яны працавалі і будуць працаваць...

## ТРЫВОГА ТЫДНЯ

У цэнтр аператыўнага ўпраўлення МПС г.п. Карма паступіла паведамленне аб успышцы віруснага гепатыту "А" ў сярэдняй школе вёскі Калодзькі і ў дзіцячым садзе вёскі Каменка. Усяго шпіталізавана 57 чалавек, з іх 22 школьнікі і 20 дзяцей дашкольнага ўзросту. Прычыну захворвання на гепатыт медыкі пакуль што не вызначылі, але і так усё зразумела — такія хваробы, як гепатыт, не ад заможнага жыцця...

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ТЫДНЯ

Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь паведаміла, што сярэдняя месячная заработная плата рабочых і служачых у лістападзе 2000 года склала 81025 рублёў (у кастрычніку 2000 года была 79782 рублі). Багацеем!

ВІНШУЕМ!

# За духоўнае адраджэнне

***Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь***

***Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб прысуджэнні прэмій "За духоўнае адраджэнне" 2000 года, у якім гаворыцца:***

***"Разгледзеўшы прадстаўленні Міністэрства культуры і Беларускай Праваслаўнай Царквы, ПАСТАНАЎЛЯЮ:***

**1. Прысудзіць прэміі "За духоўнае адраджэнне" 2000 года:**

МАКАРЭВІЧУ Леаніду Васільевічу — архітэктару, галоўнаму спецыялісту па архітэктуры, архітэктурна-канструктарскага аддзела N 3 г. Баранавічы

ПАРФЕНЮКУ Яўгену Стэфанавічу — протаіерэю, настаяцелю Свята-Уваскрасенскага сабора г. Брэста, благачыннаму цэркваў Брэсцкай акругі

СЕМЧАНКУ Паўлу Апанасавічу — прафесару кафедры праектавання выставак і рэкламы Беларускай акадэміі мастацтваў

ШАУРУ Рыгору Фёдаравічу — прафесару кафедры народных рамёстваў Беларускага універсітэта культуры

ЯСКЕВІЧ Алене Аляксандраўне — старшаму навуковаму супрацоўніку, дактаранту Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**2. Устанавіць памер прэміі "За духоўнае адраджэнне" 2000 года 100 мінімальных заработных плат.**

**3. Міністэрству культуры ажыццявіць выплату прэмій "За духоўнае адраджэнне" 2000 года з фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва.**

**4. Вызваліць асоб, якія прэміяваны ў адпаведнасці з дадзеным указам, ад спагнання падаходнага падатку па сумах атрыманых прэмій.**

**5. Дадзены указ уступае ў сілу з дня яго падпісання".**

# Лаўрэаты прэміі

## "ЛіМа" і кампаніі "ВКТ-ОЙЛ"

**Сёлета "ЛіМ" з дапамогай кампаніі "ВКТ-ОЙЛ" (дырэктар КАВАЛЁЎ Аляксандр Міхайлавіч) працягвае добрую традыцыю вызначэння аўтараў лепшых публікацый тыднёвіка за год. Рэдкалегія "ЛіМа" лаўрэатамі прэміі за 2000 год па пяці намінацыях — публіцыстыка, эсэ, проза, паэзія, пераклады — названы:**











Ніл ГІЛЕВІЧ (публіцыстыка) за старонкі з будучай кнігі "Быў час, быў век, была эпоха", N 30 і іншыя;

Генрых ДАЛІДОВІЧ (проза) за апавяданні "Коні" і "Дубіна", N 33-34;

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК за "Новыя вершы", N 32;

Анатоль КУДРАВЕЦ (эсэ) за "Я Прыпяці выток і вусце", N 5;

Максім ЛУЖАНІН (пераклады) за пераклад "Чорнага чалавека" Сяргея Ясеніна, N 39.

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Напярэдадні Новага года пад Масквой адбыліся традыцыйныя "Передзелкинские чтения" пад эгідай Міжнароднага літфонду. Тэма іх гэтым разам была "Канец стагоддзя — канец паэзіі". У дыскусіі, у якой бралі ўдзел вядомыя паэты і літаратуразнаўцы У.Огнеў, А.Кушнер, Я.Еўтушэнка, М.Гросу, М.Канаат, Р.Нурпеісаў, Р.Сонцаў, У.Брытанішскі прадстаўлялі Расію, Казахстан, Малдову, Таджыкістан галоўны рэдактар часопіса "Дружба народов" А.Эбанаідзе. Выступілі таксама і прадстаўнікі нашага творчага саюза Алесь Пісьмянкоў і Навум Гальпяровіч. Дарэчы, па словах старшыні Міжнароднага Літфонду У.Огнева, бліжэйшы "круглы стол" па пытаннях узаемадзеяння літаратур краін СНД і Балтыі пройдзе на Беларусі. З цікавымі прапановамі пра супрацоўніцтва да прадстаўнікоў Саюза беларускіх пісьменнікаў звярнуліся галоўны рэдактар часопіса "Дружба народов" Аляксандр Эбанаідзе і галоўны рэдактар альманаха "Дзень і ноч", які выходзіць у Іркуцку Раман Сонцаў.

●

Стыпендыі Міжнароднага Літфонду ў 2001 годзе будуць выплачвацца, па прапанове Саюза беларускіх пісьменнікаў і Белліт-фонду, Ніна Мацяш і Ала Канапелька. Гэта стала вядома пасля пасяджэння прэзідыума Міжнароднага Літфонду, які адбыўся ў Маскве напрыканцы снежня. У пасяджэнні браў удзел старшыня Белліт-фонду Уладзіслаў Мачульскі.

Летась стыпендыі Міжнароднага Літфонду атрымлівалі Іван Стадольнік і Віктар Казько.

●

Стварэнню ў рэспубліцы дзейснай сістэмы прапаганды і рэкламы беларускай кнігі паслужыць канцэпцыя, распрацаваная Дзяржаўным Камітэтам па друку Рэспублікі Беларусь. Асобны раздзел прысвечаны дзейнасці Саюза беларускіх пісьменнікаў. У яго ўвайшлі аднаўленне работы Бюро прапаганды беларускай літаратуры (сумесна з Беллітфондам), арганізацыя выездаў пісьменнікаў да сваіх землякоў у рэгіёны пры ўдзеле работнікаў выдавецтваў, правядзенне ў Полацку штогодніх Скарынаўскіх святаў кнігі, арганізацыя выступленняў пісьменнікаў у кнігарнях, бібліятэках, навучальных установах рэспублікі, бібліятэцы Саюза пісьменнікаў, у сродках масавай інфармацыі.

●

Прывітальная тэлеграма з Новым годам прыйшла на імя в.а. старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольгі Іпатавай ад старшыні Міжнароднай супольнасці пісьменніцкіх саюзаў Сяргея Міхалкова. У ёй разам з сардэчнымі віншаваннямі ў адрас беларускіх пісьменнікаў выказваецца надзея на далейшае развіццё і паглыбленне культурнага і творчага супрацоўніцтва паміж літаратарамі МСПС і Саюза беларускіх пісьменнікаў.

●

Ярка і весела прайшла "Навагодняя ялінка" для дзяцей пісьменнікаў у бібліятэцы нашага творчага Саюза. Было ўсё: і ўпрыгожаная цацкамі і агеньчыкамі ёлка, і Дзед Мароз са Снягуркай, і казачныя персанажы, вясёлы карагод, вершы, якія чыталі і бацькі, і дзеці. І, вядома ж, не абышлося без навагодніх падарункаў. Тут істотную дапамогу СБП аказалі Беларускі дзіцячы фонд, Саюз беларускіх жанчын, рэлігійныя арганізацыі краіны.

**Н.К.**

ВЕЧАРЫНЫ

# Літаратурныя сустрэчы ў БДУ

5 снежня на філалагічным факультэце БДУ адбылася творчая сустрэча з беларускім паэтам, перакладчыкам, выдаўцом, доктарам філалагічных навук, прафесарам, старшынёй літаратурнага аб'яднання "БЕЛАВЕЖА" Янам Чыквіным і прафесарам Універсітэта ў Беластоку Галінай Тварановіч-Сеўрук.

Ладзілі вечарыну кафедра беларускай літаратуры XX стагоддзя БДУ сумесна з Фундаментальнай бібліятэкай БДУ.

На вечарыне прагучалі вершы паэтычнага дуэта. Госці адказвалі на шматлікія пытанні слухачоў, распавядалі пра літаратурнае жыццё Беласточчыны і Польшчы, прэзентавалі свае новыя кнігі і выданні беластоцкіх аўтараў.

Завяршылі сустрэчу прафесар, член-карэспандэнт НАН Беларусі Алег Лойка і загадчык кафедры беларускай літаратуры, прафесар Людміла Сінькова, якія выступілі са словамі ўдзячнасці.

●

6 снежня 2000 г. у актавай зале інтэрната БДУ N 7 адбылася творчая вечарына сяброў літаратурнага аб'яднання філалагічнага факультэта "Узлёт", прысвечаная 70-годдзю У. Караткевіча.

Свае вершы прачыталі В. Жыбуль, А. Нінько, І. Сіроткін, М. Адам, П. Гаспадыніч, І. Саўко, А. Усаў, С. Карпаў, В. Каленік і інш.

Бард А. Івашчанка выканаў песню на словы У. Караткевіча.

На вечарыне прысутнічалі і выступалі супрацоўнікі кафедры беларускай літаратуры XX стагоддзя БДУ А. Лойка, Л. Сінькова, А. Верабей, А. Пашкевіч.

**Лада АЛЕЙНІК**

# Галіна ВАЛЧУГА:
# "Падтрымка прэсы дзяржавай — не яе абавязак, а дабрачыннасць..."

***Субяседнікамі ў лімаўскай гасцёўні звычайна былі пісьменнікі, мастакі, музычныя і тэатральныя дзеячы, людзі іншых творчых прафесій. Запрашаліся часам і проста, як кажуць, цікавыя людзі — сваёй біяграфіяй, родам занядкаў, аднак жа існавала свайго роду табу на запрашэнне ў гасцёўню свайго брата-журналіста, а тым больш чалавека, ад якога мы, газетчыкі, і самі нашы выданні нейкім чынам залежым. Скажам, таго ці іншага чыноўніка Дзяржкамдруку. А зрэшты, чаму? З пачуцця ніякаватасці? З боязі запабягання падначаленага перад начальнікам? Дык жа пра гэта кожны мяркуе ў меру сваёй сапсаванасці, як прынята гаварыць.***

***Карацей кажучы, сёння мы якраз і парушылі гэтае невядома кім і дзеля чаго ўсталяванае табу. Гэтым разам у нашай гасцёўні — намеснік старшыні Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь Галіна Уладзіміраўна Валчуга. У лімаўскіх рэдакцыйных сценах раней яна бывала афіцыйнай асобай, па сваёй ініцыятыве. А зараз адгукнулася на нашу просьбу "прыйсці" на лімаўскія старонкі.***

***Дзеля знаёмства — колькі радкоў з біяграфіі госці. Нарадзілася ў Мінску, дзіцячыя гады прайшлі ў раёне Зялёнага Луга. Скончыла школу, стала студэнткай БПІ — цяперашняй політэхнічнай акадэміі. Тут атрымала не толькі дыплом інжынера, але й напаткала будучага мужа. Нейкі час пасля інстытута працавала па спецыяльнасці, потым апынулася на працы ў Мінскім аблвыканкаме. Пасля сканчэння Акадэміі кіравання працавала ў фінансавым аддзеле Упраўлення справамі прэзідэнта. У рэшце рэшт перайшла на працу ў Дзяржкамдрук, на пасаду намесніка старшыні па эканамічных пытаннях. І гаворка наша пачалася акурат з гэтых пытанняў.***

**— Галіна Уладзіміраўна, які абсяг вашых службовых турбот і клопатаў?**

— Клопаты і турботы мае, калі гаварыць увогуле, — эканамічнага парадку. Але я разумею і іншае: калі бухгалтар будзе бачыць толькі дэбет і крэдыт і будзе клапаціцца толькі аб іх, то асаблівага поспеху ў рабоце прадпрыемства не будзе. Эканамічная праца куды больш аб'ёмная і важная, чым на першы погляд здаецца. Я рада, што сёння і галоўныя рэдактары нашых газет і часопісаў разумеюць, што павінны думаць не толькі пра творчы бок справы, але і пра фінансавы. Лічбы — рэч зусім не абстрактная. Яны вынікаюць з дзейнасці як асобнага чалавека, так і калектываў. Як працуеш, так і маеш. Надышоў час, калі трэба вучыцца лічыць грошы. Мінуліся часы ўтрымanства, кожны рэдактар выдання мусіць гэта разумець. Тым не менш, сапраўдная каштоўнасць выдання вымяраецца не толькі грашыма. Не так даўно на калегіі камітэта мы абмяркоўвалі работу перыядычных выданняў, заснавальнікам якіх з'яўляецца Саюз беларускіх пісьменнікаў. Само сабою, мы не проста канстатавалі: атрыманы прыбыткі такія вось, страты — такія вось, вынікі — такія. Гаварылі і пра змест выданняў, і пра іх вонкавы выгляд, і пра іншыя якасці зусім неэканамічнага парадку. Шукалі сумесна сродкі, шляхі і метады для таго, каб гэтыя выданні былі лепшымі, цікавейшымі, больш змястоўнымі, шырэй ішлі да чытача.

**— Як дзяржаўнаму службоўцу, па-простаму чыноўніку ўсе аб'екты вашай увагі — гэта значыць, газеты, часопісы — для вас аднолькавыя. А як для чалавека? Ёсць жа, напэўна, нейкія асабістыя сімпатыі? Што чытаеце не толькі па службе, але й па патрэбе душы?**

— Калі я кажу часам, што працую з лічбамі, мне заяўляюць: на тое вы й чыноўнік! А што, хіба чыноўнік — не чалавек? Ён ужо не можа адчуваць, перажываць, хваляваць? Калі я прыйшла сюды працаваць, мяне зачаравала атмасфера шчырых чалавечых адносін у асяроддзі журналістаў, літаратараў, паліграфістаў. Адчуваецца, што людзі жывуць адным агульным клопатам, згуртаваныя адною справаю. На кніжных выставах і кірмашах ці не найбольш захапляе гэтая агульная заклапочанасць, нейкая душэўная еднасць аўтараў, мастакоў, выдаўцоў, гандляроў. Так, і прадаўцоў кніг і перыядычных выданняў. Прадавец кнігі гэта не прадавец каўбасы ці абутку. Я часта заходжу ў кнігарню "Светач", што побач з нашым будынкам, і заўважаю, што прадаўцы, асабліва сталейшага веку, надзвычай беражна ставяцца да кнігі. Роля друкаванага слова — велізарная. Кніга ў руках — гэта зусім не тое, што глядзець тэлевізар ці слухаць радыё. Кніга — гэта нешта не вокамгненнае, а доўгатэрміновае, вечнае. Тым з большай павагай асабіста я стаўлюся да пісьменнікаў, да аўтараў кніг, часопісных і газетных публікацый. Літаратурныя здольнасці, пісьменніцкі талент — гэта сапраўды боскі дар. Пішучых людзей трэба шанаваць і аберагаць, усяляк падтрымліваць. Аднойчы мы за "круглым сталом" абмяркоўвалі пытанне "прэса і эканоміка". І там слушна адзначалася, што журналіст, дасканала вывучыўшы нейкую эканамічную праблему, напіша, распавядзе пра яе чытачам лепш, цікавей і мо нават глыбей, чым сам эканаміст са сваім дасканалым веданнем законаў эканомікі. А што да чытання... Праглядваю літаральна ўсе газеты і часопісы, па магчымасці знаёмлюся са зместам тых ці іншых публікацый. Калі натыкаюся сама на штосьці цікавае ў "ЛіМе", "Полымі" ці "Нёмане", ці калі хто падкажа, параіць сёе-тое прачытаць — абавязкова чытаю, стараюся не прапусціць. Напэўна, гэтае чытанне спрыяе і таму, што звяртаеш больш пільную ўвагу на аб'ём, тыраж выдання, на яго знешні выгляд. Вось хоць бы тое самае згаданае "Полымя". Сумна, што галоўны літаратурны часопіс мае такі несамавіты выгляд. Трэба, вядома, эканоміць, лічыць грошы, але за прынцып работы трэба браць нешта больш важнае, чым абы толькі танней. Бо сапраўды кошт выдання вымяраецца, паўтару, усё ж не толькі грашыма...

**— У сённяшніх эканамічных умовах, калі мы павольна, спакваля, эвалюцыйна ідзём да рынку, нялёгка, напэўна, даводзіцца і чыноўнікам. Кіраўнікі перыядычных выданняў ідуць у Дзяржкамдрук з просьбай дапамагчы, найперш — ці не да вас асабіста. Якія магчымасці аказаць дапамогу, падтрымаць выданні мае сёння дзяржава і як яны рэалізоўваюцца?**

— Так, наша дзяржава падтрымлівае перыядычныя выданні, асабліва калі параўнаць з тым, як гэта робіцца ў іншых краінах СНД. Там амаль няма дзяржаўнай падтрымкі прэсы. У Расіі, напрыклад, дзяржаўную падтрымку маe толькі раённы друк. Мы ж падтрымліваем і абласныя, і так званыя рэспубліканскія газеты, і многія галіновыя — праз адпаведныя міністэрствы і ведамствы. Дзякаваць Богу, што сёння і галоўныя рэдактары выданняў нарэшце пачынаюць разумець: падтрымка прэсы дзяржавай — гэта не абавязак яе, а дабрачыннасць, гэта падтрымка не столькі рэдакцыі газеты, колькі яе чытача. Дзяржаўная датацыя скіравана на тое, каб кошт таго ці іншага выдання быў даступны чытачам. Калі мы хочам фарміраваць грамадскую думку ў адпаведнасці з пэўнымі агульначалавечымі вартасцямі, мы павінны падтрымаць тыя выданні, якія працуюць на гэта, у імя гэтага. Адсюль наша найбольшая падтрымка дзіцячых выданняў. І аб'ём іх пабольшаў, і друк палепшаў, і колер у многіх з'явіўся, і ў розніцу настойліва прапануем браць іх больш. Клопат гэты часам і стратны, аднак задача стаіць важнейшая — зрабіць гэтыя выданні агульнадаступнымі, дамагчыся, каб яны былі ў кожнай сям'і. Падтрымлівае дзяржава і літаратурна-мастацкія выданні. Дарэчы, спецыяльная пастанова прадугледжвае аказанне гэтым выданням дапамогі ў матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні. Мы стараемся адгукацца на просьбы, ісці насустрач пажаданням рэдакцыйных калектываў, перажываем і клапоцімся пра іх патрэбы. А як жа інакш? Гэта ж наш агульны клопат, усё грамадства павінна працаваць на агульны вынік. Згадваецца ў гэтай сувязі нядаўняя перадача па НТБ — дыялог Уладзіміра Малчанава з нашым Васілём Быкавым. Васіль Уладзіміравіч неяк вельмі асуджана, безнадзейна сказаў пра нашу будучыню. Маўляў, мы вельмі малы ўнёсак робім сёння дзеля гэтай будучыні, мала закладваем у яе падмурак. Мяне гэта ягоная думка вельмі ўразіла і засмуціла. Асабліва той настрой, з якім Васіль Уладзіміравіч гаварыў пра гэта. Я мяркую, не ўсё гэтак безнадзейна.

**— Галіна Уладзіміраўна, а якія стасункі камітэта з так званым недзяржаўным друкам? Ці ўплывае дзяржава нейкім чынам на незалежны камерцыйны друк?**



— Мы не перашкаджаем нікому, і гэта самае галоўнае. Бадай, ніколі і нікому з тых заснавальнікаў, якія прыходзілі да нас з намерам ці жаданнем зарэгістраваць свае сродкі масавай інфармацыі, не было адмоўлена. Калі ласка! Ёсць пэўны пералік дакументаў, якія неабходна прадставіць, — і ўсё. Хочаце працаваць — працуйце. Ёсць пэўнае прававое поле, не выходзьце з яго, не парушайце — і працуйце на здароўе. І праблемы могуць узнікнуць, сяды-тады, на жаль, і ўзнікалі, калі парушэнні ўсё ж робіцца, дапускаюцца, правільней — дапускаліся.

**— Галіна Уладзіміраўна, аднак жа грэшна будзе не спытаць у вас і пра іншае. Вы ж, у дадатак да ўсяго, а мо найперш — яшчэ й жанчына, маці і жонка. З якім настроем сустракаеце вы новы дзень, як наогул пачуваецеся ў сённяшнім нялёгкім дні?**

— Ведаеце, па-рознаму. Бываюць перыяды проста стомленасці. Я зрабіла для сябе выснову. Чалавек павінен нечага хацець, да нечага імкнуцца, мець мэту. Калі няма гэтага, тады й жыць не хочацца. Трэба навучыцца хацець нават у дробязях. Мне хочацца, каб усе побач са мной былі здаровыя, непаныя, шчырыя. Я хачу бачыць ваш сваёй працы. Гэта, напэўна, характэрна для кожнага чалавека. Падыход у мяне да жыцця адзін: імкнуся аддаваць сябе цалкам як на рабоце, гэтак і дома. А дзень свой, кожны новы дзень стараюся пачынаць добрым настроем і добрай справай, хоць самай маленькай, чужому яму незаўважнай...

**— Ведаю, што ваш муж — кіраўнік адміністрацыі Савецкага раёна горада Мінска. Дома вы з ім абмяркоўваеце чыста сямейныя праблемы ці закранаеце і грамадскія, дзяржаўныя? Абмяркоўваеце, а мо й спрачаецеся па нейкіх палітычных, скажам, пытаннях?**

— Стараемся не гаварыць пра дзяржаўныя, грамадскія, палітычныя варункі. Бываюць моманты, сядзіць муж ля тэлевізара, глядзіць у экран, але бачу, што думкі ягоныя зусім у іншым кірунку працуюць, недзе далёка ён ад таго, што робіцца на экране. У яго клопатаў хапае. Таму абцяжарваць яго яшчэ абмеркаваннем нейкіх праблем не хачу. Дом, наша сям'я — наш бастыён, наш сусвет, і парушаць, рушыць яго нявarта, бо інакш можна страціць арыентацыю ў гэтым свеце наогул.

*(Працяг на стар. 4)*

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## На скрыжаванні стагоддзяў

Гомельская абласная арганізацыя Саюза мастакоў налічвае 70 сяброў — жывапісцаў, графікаў, скульптараў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Сярод іх — заслужаныя дзеячы мастацтваў Беларусі Д. Алейнік, М. Казакевіч, вядомыя майстры пэндзля і разца Р. Ландарскі, С. Дзьяканаў, А. Отчык, У. Кароткі, Г. Гарбанёў, Д. Папоў, П. Фей, М. Кляцкоў... У карцінннай галерэі абласной арганізацыі СМ адкрылася экспазіцыя "Беларусь — трэцяму тысячагоддзю". У работах гомельскіх мастакоў прадстаўлены на выставе, — жыццё палескага краю, яго цудоўныя людзі і маляўнічая прырода.

## Знаходкі археолагаў

Абласны краязнаўчы музей вядзе актыўную навуковую работу, у тым ліку і археалагічную. Сёлета даволі ўдала закончыліся палявыя работы па раскопках у цэнтры Гомеля. У выніку знойдзены унікальныя рэчы і прадметы, якія адносяцца да IX і наступных стагоддзяў старажытнага часу. Гэта шматлікія прадметы бытавога ўжытку, аздобы, узбраенне гарадскіх дружыннікаў. Удзельнікі археалагічных раскопак дэманструюць свае знаходкі ў навучальных установах і школах горада.

## "Зімовая вясёлка-2000"

У абласным Грамадска-культурным цэнтры прайшоў фестываль "Зімовая вясёлка-2000". У ім прынялі ўдзел творчыя студэнцкія калектывы дзяржуніверсітэта імя Ф. Скарыны, політэхнічнага ўніверсітэта і універсітэта транспарту, кааператыўнага інстытута. Прыехалі і госці — студэнты Мазырскага педінстытута. Пераможцы фестывалю атрымалі прызы.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Тут ажывае гісторыя

Каля 80 тысяч экспанатаў налічваецца зараз у Брэсцкім краязнаўчым музеі. Асабліва багатыя аддзелы старажытнай і новай гісторыі, прыроды, этнаграфіі. Музей сабраў вялікія калекцыі зброі, манет, археалагічных знаходак, рукапісных і друкаваных кніг. Тут захоўваюцца, у прыватнасці, герб і пячатка Брэста — першага беларускага горада, які атрымаў Магдэбургскае права.

Шырока вядомыя музейныя філіі — археалагічны музей "Бярэсце", музей "Камянецкая вежа", музей партызанскай славы і іншыя. Акрамя карціннай галерэі, рэгулярна працуюць стацыянарныя і перасоўныя выставы.

Пра гэтыя і многія іншыя набыткі галоўнага музея Берасцейшчыны гаварылі дырэктар Таіса Новік, вядучы спецыяліст Таццяна Ходцава, іхнія калегі, а таксама прадстаўнікі ўлад, грамадскіх і творчых арганізацый вобласці на ўрачыстай вечарыне, прысвечанай 50-годдзю з дня заснавання гэтай культурнай установы.

## Віталі земляка

У Брэсце і на роднай Камянеччыне пабываў паэт, празаік і перакладчык, супрацоўнік часопіса "Полымя" Васіль Жуковіч, які нядаўна адсвяткаваў сваё 60-годдзе.

Былога свайго выпускніка цёпла вітаў філфак дзяржуніверсітэта, дзе студэнты і выкладчыкі падрыхтавалі вялікую літаратурна-мастацкую кампазіцыю паводле твораў пісьменніка. Потым госць чытаў свае новыя вершы, адказваў на пытанні, даваў аўтографы чытачам. Не менш шчырай і плённай атрымалася сустрэча і ў Камянецкай раённай бібліятэцы, дзе асноўнымі суразмоўцамі Васіля Жуковіча былі школьнікі і настаўнікі, тутэйшыя літаратары.

**Сымон АКСЕНІН**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## У гонар губернатара

Нядаўна ў абласным цэнтры прайшлі чытанні, прысвечаныя 160-годдзю з дня нараджэння А. Дэмбавецкага — магілёўскага губернатара, асветніка, чалавека шматлікіх навуковых інтарэсаў. Менавіта ён у свой час паруліўся аб выданні трохтомнай калектыўнай працы "Вопыт апісання Магілёўскай губерні" — унікальнай краязнаўчай энцыклапедыі магілёўскага краю.

Удзельнікі чытанняў — гісторыкі, краязнаўцы, творчая інтэлігенцыя — звярнуліся да выканаўчых улад горада і вобласці з прапановай назваць адну з вуліц Магілёва імем Дэмбавецкага.

Маркуецца выдаць таксама навукова-папулярны збор "Магілёў губернскі" аб Магілёве XIX — пачатку XX стагоддзя. Запланавана і перавыданне "Вопыту...". Першы том пабачыць свет да 120-годдзя публікацыі гісторыка-краязнаўчай энцыклапедыі.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Сузор'е муз

У апошнія дні мінулага года ў Віцебску прайшлі дні творчай інтэлігенцыі "Сузор'е муз-2000". "Яны ўжо сталі для горада традыцыйнымі", — адзначыў начальнік упраўлення культуры гарвыканкама Віктар Кібісаў.

Дні пачаліся з літаратурнай акцыі "XX стагоддзе: дзякуй, даруй, бывай", якая прайшла ў бібліятэцы імя Максіма Горкага. Прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі ўсклалі кветкі да помнікаў нашых землякоў — У. Караткевічу, М. Шагалу, Е. Лось, П. Броўку, З. Канапельцы. У Беларускім тэатры "Лялька" прайшоў спектакль "Ладдзя роспачы", а таксама канцэрт "Вынікі стагоддзя" народнага маладзёжнага хору і ўзорнага хору школы мастацтваў N 1 пад кіраўніцтвам Віталя Раўза. На ўрачыстай цырымоніі былі названы лаўрэаты чарговай прэміі "Сузор'е муз".

**Святлана ГУК**

Янка БРЫЛЬ

# ЖМЕНЬКА



НАША карэліцкая кніга "Памяць". Увечары зноў глядзеў яе, за другім захадам шукаючы і знаходзячы штосьці новае.

Так у раздзеле "Вернутыя імёны", які я, выходзіць, проста прапусціў, гартаючы кнігу першы раз, знайшоў такое:

"Рап'евец Канстанцін Сцяпанавіч, н. у 1916, у в. Лыкавічы. Арыштаваны ў студзені 1939. Асуджаны ў маі 1939. Прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны ў снежні 1966."

Было каму і плакаць па ім, і пра рэабілітацыю паклапаціцца. Той самы мой аднакласнік Косця-Лычык, пра якога я ўжо даўнавата пісаў, як ён, будучы польскім жаўнерам, так тады гаварылася, у форме і з карабінам уцёк у "Саветы", а што з ім здарылася там (1937—1938 гг.), я або чуў і забыўся, або, хутчэй, і не чуў. Памылка толькі на год: "суд", пасля турмы і катаванняў, і расстрэл адбыліся ў 39-м. А ўсё гэта — у чатырох радках кніжнай калонкі...

Ёсць і яшчэ скупей. У раздзеле "Ахвяры фашысцкага тэрору":

"Барысевіч Іван Гаўрылавіч.

Барысевіч Ірына Сафронаўна.

Яны расстраляны ў маі 1943 у г.п. Мір".

Бацькі Цімы Ныгрыса (сямейная мянушка), дзядзька Іван (па бацьку я яго не ведаў) і цётка Ярына (так па-вясковаму), дачка пацешнага дзеда Цупрона Гаркавага (мянушка Мурын). Небагатыя хутаране на "кругліцы" поля паміж нашай, загорскай пашай і сенакосамі. Там іх дома арыштавалі раніцай, а хату і ўсе будынкі падпалілі. Пагаворвалася пасля, а вясёлы, дасціпны Ціма, вярнуўшыся з Нямеччыны, даводзіў мне, што немцаў тады на іх "навялі свае сабакі", бо ён жа і праўда быў звязаны з партызанамі. У Нямеччыне гаравалі яны з Любай і дзіцем, дзяўчынкай. А старых акупантам выгадней было закапаць у Міры за бойняй, дзе было месца расстрэлаў.

Многа ў кнізе такога падобнага, пададзенага коратка і яшчэ карацей, і ўсё яно ў тых, да сціснаты сумных пераліках у памяці могуць ажывіць толькі свае пра сваіх, мясцовыя пра мясцовых. Некалькі вёсак навокал тваёй, а перш за ўсё, найжывей усё ў сваёй.

❑

У Таварыстве дружбы яўна было засцесна ад збою людзей, што прыйшлі на польскі прыём, людзей у пераважнай большасці маладых, незнаёмых. Дрэнны настрой пачаўся ў мяне ад урачыстай часткі. Пасля гімнаў на скрыпках, дзе пасля іхняга, за дзвесце з гакам гадоў загартаванага ў змаганнях, наш прапілікаўся нейкім часовым, няпэўным дадаткам. Польскі пасол дастойна і зусім прыстойна выступіў на беларускай мове, сцісла і ясна паведаміў пра значэнне іхняй Канстытуцыі Трэцяга Мая, таксама двухвекавой, што стала ў сусветнай гісторыі побач з амерыканскай і французскай. А тады наш вертыкальшчык, якога мне з-за спінаў ды галоў нельга было ўбачыць, па-руску ды пасказённаму суха, коратка і ледзь чутна прабубніў сякое-такое віншаванне. Пасля чаго пачаўся ўсеагульны наступ на фуршэтныя сталы і гамана.

Стому і нуду адчуў я душой і нагамі адразу, ды так, што пасля шклянкі грэйпфрутавага соку і палавінкі банана падаўся на выхад, дамоў.

Паважаць нас, думалася, можна толькі з дыпламатычных меркаванняў.

❑

У свой час, ужо зусім адзін, самастойна закончыўшы другую частку "Блакаднай кнігі", Алесь Адамовіч расказваў мне, што Даніл Гранін, які наогул не надта прылажыўся да працы і над першай часткай, а ў напісанні другое і цалкам не прымаў удзелу, адчуў няёмкасць і прапанаваў Алесю другую частку падпісваць толькі сваім прозвішчам, з чым той, вядома, не згадзіўся.

А вось у "ЛіМе" за 19.V.2000 Міхась Тычына кажа, што ў Санкт-Пецярбургу нядаўна "Блакадная кніга" перавыдадзена і аўтары пастаўлены ўжо не па алфавіце, а з Граніным наперадзе... Няўжо і ён, Даніла Аляксандравіч, мае да гэтага дачыненне?.. Ці самі выдаўцы падышлі тут "со смыслом": усё ж такі старэйшы брат?..

❑

"Кнігарня пісьменніка". Завал літаратуры рускамоўнай і амаль нічога беларускага. Як выдаецца, так і прадаецца. Самасільна рыхтуемся да братняга ўз'яднання...

❑

Газета "Rzeczpospolita" за 31.X—1.XI, у рубрыцы "Odeszli", памерлі паміж двума "Днямі задушнымі", леташнім і сёлетнім, паведаміла, што сярод іншых знатных палякаў памёр і Жукроўскі. Высокіх слоў пра Войцеха, як і пра кожнага ў пераліку, няма, — некалькі скупых, дэмакратычна аб'ектыўных радкоў: пісьменнік і сцэнарыст, аўтар чатырох найбольш вядомых твораў. Да слова **аб'ектыўных** я спераду дадаў **дэмакратычных**, успомніўшы пра сучасную, ужо і дзесяцігадовую апалу аднаго з лепшых празаікаў былой Народнай Польшчы. "Żukrowski obecnie nie jest u nas lubiany", — сказаў мне пазалетась у Карэлічах, на Міцкевічавым свяце, адзін з салідных польскіх літаратуразнаўцаў.

У лістападзе 1983-га, ужо не памятаю выразна, у Хэлме ранняй раніцай, калі мы ўдвух з Жукроўскім праходжваліся па ціхіх яшчэ вуліцах, ці ў Познані, калі ўжо ўтрох з Алесем Адамовічам, няспешна блукалі па вуліцах па-начному пустынных, раней звычайна вясёлы, іранічны Войтак сумнавата расказваў, як у пачатку ваеннага становішча, Ярузэльскі доўга і не першы раз угаворваў яго ўзначаліць Саюз літаратараў. А нарэшце, страціўшы цярплівасць, прэзідэнт вырашыў справу па-генеральску: "Палкоўнік Жукроўскі — бачнасць! Пачынаючы з сённяшняга дня вы займаеце названую пасаду. Што, да халеры яснай, я павінен усё рабіць адзін?!" Так ён, свабодны пісьменнік Войцех Жукроўскі, і апынуўся паміж двух агнёў — немалым варшаўскім і непараўнана большым ватыканскім. Таму што, як гэта ў нас не вельмі вядома, — падпаручнік артылерыі ў абароннай вайне 1939 года ў дні гітлераўскай акупацыі працаваў каля Кракава ў каменяломнях разам з маладзейным на чатыры гады падпольным духоўным семінарыстам Каралем Вайтылам, сёння — Янам Паўлам II. Расказваў Войтак і пра тое, як ён пісаў каханаму Каралю то з асабістай ахвоты, а то і па традыцыйнаму pro publico bono — дзеля агульнага дабра, і як перапіска тая не надта ў іх клеілася...

У адной з кніг Святога Айца, перакладзеных Хрысцінай Лялько, у вялікім нарысе "Дар і Таямніца", цікавым аўтабіяграфічнасцю, хоць і крыху залішне стрыманай, мне было добра прачытаць, як папа згадвае і Войцеха з яго малодшым братам Антонім, іх сумеснае паднявольнае мадзенне.

Апошні раз я быў у Варшаве ў лістападзе 1987-га, але мы не пабачыліся, бо Войцех некуды на даўжэй паехаў. Пазней я паслаў яму другое выданне перакладзенай мною з жонкай яго займальна вясёлай дзіцячай аповесці-казкі "Прыгоды ў Цюцюрлістане", а ён мне праз нейкі час прыслаў працяг тых прыгодаў, пад назвай "На троне ў Блябоне", аповесці-казкі больш сатырычнай, але і слабейшай, і наогул не для дзяцей, так што я ўстрымаўся ад перакладу, пра што і напісаў аўтару па-сяброўску.

Больш мне як быццам і няма чаго сказаць, бо і ён пасля гістарычнага 1989-га замоўк у сваёй апале, і я не вельмі ведаў, што ды як пісаць... А гадоў праз чатыры прачытаў у польскай літаратурнай газеце, што Войцех Жукроўскі аказаўся, выступіў з таленавітай кнігай успамінаў, і гэта было мне прыемна. Добра было б, вядома ж, кнігу тую прачытаць, напісаць яе аўтару, атрымаць якое слова ад яго, хоць, дарэчы, заўсёды не надта ахвочага да ліставання. Niestety! — скажам па-польску, што азначае **на жаль**! З маўчаннем сваім ён не першы, і тут ёсць свой інтэрнацыянал, і я ў ім — не з лепшых.

І вось тым часам "Дзень задушны", свята памяці, газетная калонка з мноствам імёнаў тых, што адышлі, а сярод іх — амаль зусім апошні з тых, каго я ў Польшчы ведаў бліжэй, з кім сябраваў.

❑

Гарацць тарфянішчы. Узняўся вецер, пыл тарфяны гарыць на ляту, у паветры. І гэта страшна — з-за лесу, вёскі, статка і людзей, якія на дарозе гэтага агню-падпалу.

Страшна — бачачы, чуючы збоку, на тэлеэкране.

❑

Іду спакойна на зялёнае святло, пераходжу вуліцу, а з бакавое, за маім невідушчым вокам, на чырвонае святло шухнула перада мною "иномарка" як заўсёды, некуды вельмі ж спяшаючыся. Не славутыя, з песні, "четыре шага", а нейкі метр ад неваеннага канца яшчэ аднаго чалавека...

Страшна стала пазней, успомніўшы.

❑

Буйным планам на тэлеэкране адна граната, якую антычачэнскі ваяка браў з рукі ў руку, рэзка нагадала мне польскую франтавую зямлянку, у якой іх стаяла дзве скрыні, у адной "zaczepne", з гладкай паверхняй, у другой "obronne", з паверхняй насяканай, нібы яна ў шакаладных квадрацiках. Адчуўся, паўтарыўся той юначы жах пачатку другой сусветнай вайны...

❑

Чытаючы ў "Нашай Ніве" за далёкі 1910 год хроніку, апрацаваную з чытацкіх допісаў, хораша ўяўляецца, як гэта ўспрымала вёска, тыя людзі, што самі сабе чытаюць, і тыя, што слухаюць ды абмяркоўваюць чытанае ўголас...

❑

У добрай кнізе І. Б. Канапацкага і А. І. Смолкіна "Гісторыя і культура беларускіх татар" цікава было сустрэць і такое:

"Агульнавядома, што першае ўказанне, якое было дадзена Усявышнім Алахам Прароку Мухамеду (Мір яму і міласць Усявышняга!) было вызначана адным словам — "Чытай".

У гэтым сэнсе і я даволі магаметаністы вернік.

❑

Над старонкамі серба Міларада Павіча, яго аповесці "Пейзаж, нарысованный чаем", думалася, што чытаючы добрую кнігу і сам, здаецца, робішся разумнейшым, таленавіцейшым.

А чытаючы рускага Юрыя Палякова, аповесці ў томе "Сто дней до приказа", думаю, як гэта добра — быць самому вясёлым і весяліць сваім словам другіх!..

❑

Па-ўладнаму расчуленая ўсмешка задавальнення на паказе сілавых практыкаванняў "спецназа". Яму такія галовы, што лбом з падскоку разбіваюць тры белыя цагліны, пакладзеныя адна на адну, патрэбны больш за тыя, што думаюць і да чагосьці дадумваюцца.

❑

На першае прадвясняная сонца худую каровіцу выпусцяць з халоднага ды гразкага хлява, а яна пастаіць, пастаіць, прыгрэецца і раптам смешна, бо недалужна падбрыкне.

На вольна-пенсійным прыгрэве так час ад часу, зусім сур'ёзна падбрыкваюць "вершамі" не скажаш, каб худыя акадэмікі, нават з навук дакладных.

❑

На нядаўняй сустрэчы з настаўнікамі і навучэнцамі гуманітарнага ліцэя сярод запісак-пытанняў было і такое: "Ці лічыце вы сябе пісьменнікам, які адбыўся, ці вашы галоўныя творы наперадзе?"

Перш чым з усёй старэчай шчырасцю адказаць на шчырасць юную, я ўспомніў пазалеташнюю сустрэчу з выкладчыкамі і студэнтамі педуніверсітэта і запіску з гарэзлівай, а то і з'едлівай маладой калючасцю: "Ці лічыце вы сябе вялікім пісьменнікам?"

"Лічу", — адказаў я спакойна, вытрымаў пэўную паўзу, як мне здалося, пад недаўменнае маўчанне, і дадаў: — "І ўсё жыццё ад гэтага пакутую. Метр восемдзесят сем сантыметраў і, у сярэднім, сто пяць кілаграмаў. Ні вопраткі гатовай, ні абутку не знайсці..." Тут мяне спынілі смехам і воплескамі.

Было падобнае і ў ліцэі, калі я расказаў пра тую колішнюю пісульку.

❑

З-за паганай слізготы пошту 29-га прынеслі адзін раз, зусім падвечар. Затое ж радасць якая — пісьмо ад Вацлава Жыдліцкага!.. На адной палавіне "раскладушкі" з панарамай начное Прагі віншаванне, на другой P.S., які хочацца запісаць:

"Дзякуй за ўспамін, за добрае слова. Яно, зараз сказанае такім сябрам, як Ты, асталося адзінае з усяго, што было. Бо ў ім, як у нейкім кодзе, усё пражытае... Вось, відаць сіла мастацкага слова, літаратуры... Няхай Бог Цябе беражэ!"

Гэта — у адказ на маё спачуванне, жаль па яго мілай, слаўнай Марцэле. Не памятаю ўжо, як там даслоўна я, два з нечым месяцы таму назад, пісаў, аднак, аказваецца, як і трэба.

І ў яго віншаванні "з Новым годам і шчасцем", як і ў некаторых іншых сяброў, зноў пра канцы і пачаткі стагоддзяў ды тысячагоддзяў. А я гляджу на гэта ў нейкім ці не санлівым спакоі. Заўтрашнюю поўнач, магу, чаго добрага, і праспаць, як пераезд у цёплым вагоне яшчэ адной дзяржаўнай граніцы...

А як гэта хораша — чэхам па-беларуску — сказана, што хочацца павярнуць і на яго, і на ўсіх добрых людзей: Няхай нас Бог **беражэ**!



*Фота М. ПРУПАСА*

# Каб жыла душа

## Анатолю КУДРАЎЦУ — 65

Першая кніга далёка не кожнага пісьменніка можа выклікаць такое захапленне, як гэта атрымалася са зборнікам прозы "На зялёнай дарозе" Анатоля Кудраўца. Усе, хто пісаў пра яе, былі аднадушны ў сваіх меркаваннях: у літаратуру ідзе яркі, самабытны празаік. А зялёнае святло на творчым шляху Анатоля Паўлавіча па сутнасці запаліў Янка Брыль (хто-хто, а Іван Антонавіч ведае сапраўдную цану сапраўднай літаратуры), які прысвяціў гэтай кнізе артыкул "Пра здзіўленне і зайздрасць". Я. Брыль падзяліўся тым прыемным уражаннем, што зрабіла на яго "ціхая, мудрая і сардэчная чалавечнасць, якою зусім арганічна і вельмі па-нашаму, па-беларуску прасякнута кніга, усё, што аўтар бачыць і чуе, пра што ён мае патрэбу расказаць".

Пасля ў А. Кудраўца былі іншыя кнігі — "Раданіца", "Дзень перад святам", "На балоце скрыпелі драчы", "Смерць нацыяналіста", раман "Сачыненне на вольную тэму" і іншыя, што гэтаксама радавалі ўменнем аўтара ствараць цікавыя, запамінальныя характары, узнімаць вельмі надзённыя, як сёння кажуць, агульначалавечыя праблемы. А. Кудравец не імкнуўся да нейкіх замысловатых сюжэтаў, а проста пільна ўзіраўся ў паўсядзённыя будні, чэрпаючы тое, што ніколі не страчвае свайго першаступеннага значэння і вартасці. І, у параўнанні з іншымі аўтарамі, пісаў не так і шмат, але напісанае ім (і тое, што пішацца сёння) — шчодрае, адборнае зерне, у якім, нават пры самым уважлівым разглядзе, не знойдзеш паловы. Зерне, якое і дае ўсходы літаратуры высокага гуманістычнага гучання, напоўненай глыбокім роздумам пра чалавека.

У свой час выступаючы на старонках "ЛіМа" з артыкулам пра творчасць А. Кудраўца "Жыць чалавекам сярод людзей", "Серафім Андраюк правёў такую паралель: "К. Чорны — Я. Брыль — А. Кудравец", пры гэтым зазначыўшы: "Пры ўсёй магчымай знешняй нечаканасці гэтага рада ёсць у ім глыбінная ўнутраная сувязь менавіта па лініі чалавечнасці і народнасці. Сёння Кудравец сваёй творчасцю годна і паспяхова мацуе гэтую сувязь. І асабліва яна адчуваецца ў паказе жанчыны, жанчыны-маці". З часу напісання артыкула мінулася дваццаць тры гады, але сказанае С. Андраюком паранейшаму праўдзіва, бо А. Кудравец — з пісьменнікаў, якія на працягу ўсяго свайго жыцця па сутнасці ствараюць адну кнігу — кнігу жыцця. Іхняе правіла і правіла іх герояў — "Жыць чалавекам сярод людзей".

Уклаўшы згаданы выраз, які нельга ўспрымаць інакш, як афарызм, у вусны галоўнага героя аповесці "Раданіца" Івана Купцова, А. Кудравец, магчыма, і не задумваючыся над гэтым, па сутнасці вызначыў магістральны матыў у сваёй творчасці. Ён гучаў у творах, якія папярэднічалі "Раданіцы", ён прысутнічае і ў тых, што з'явіліся пасля гэтай аповесці, у тым ліку і ў рамане "Сачыненне на вольную тэму". Дый, калі лепей разабрацца, уся творчасць А. Кудраўца і ёсць, вобразна кажучы, сачыненне на вольную тэму. У тым сэнсе, што ён не прыдумвае жыццёвыя сітуацыі і калізіі, а ідзе ад самой рэчаіснасці, што і падказвае новыя сюжэты, адкрывае новых герояў. А героі гэтыя ў А. Кудраўца такія, што нельга іх не запомніць.

Як, для прыкладу, Іваніху з аднайменнага апавядання. Стольки перажыла жанчына, аднак не расчаравалася ў людзях, не страціла цікавасці да жыцця. Калі чарговы раз прасочваеш яе лёс, міжволі прыгадваеш галоўнага героя куды пазнейшага апавядання А. Кудраўца "Дзень перад святам". Іван



Іванавіч (імя і імя па бацьку, думаецца, невыпадковае, тым самым, як мне здаецца, пісьменнік лішні раз падкрэслівае, наколькі персанаж ён тыповы) думае: "Гэта толькі гавораць так: "непаўторны", "непаўторнае"... Усё можна паўтарыць. Паўтарыць наноў. Трэба толькі, каб жыла душа. Жыла і балела.... Толькі балючая душа можа даць жыццё памяці, уваскрасіць мёртвае". А жыве душа — жыве і чалавек. А калі жыве душа таго, хто ведаў гэтага чалавека, а цяпер памятае, значыць той, хто адышоў, па-свойму несмяротны. І ў гэтым таксама свая філасофія.

Гэтай філасофіяй і напоўнены творы, кнігі А. Кудраўца, а яго "балючая душа", кажучы словамі С. Андраюка, "дае жыццё эстэтычнай нацыянальнай памяці, развівае, узбагачае і памнажае сапраўды народную, сапраўды чалавечную мастацкую традыцыю".

**Лявон ЮРЧЫК**

АДГАЛОСКІ

# Ці ўратуе нас Віні-Пух?

Прачытаў у "ЛіМе" развагі пра беларускую дзіцячую літаратуру — "У чаканні беларускага Віні-Пуха" — і не магу ўстрымацца, каб не сказаць некалькі слоў аб гэтай вельмі важнай праблеме.

Шаноўныя наведвальнікі "лімаўскай гасцёўні", я падзяляю вашу заклапочанасць. Сапраўды, сёння нашы дзеці мала знаёмы з беларускай літаратурай, а некаторыя наогул не чытаюць кніг беларускіх пісьменнікаў. Толькі прычына гэтай непрыемнай з'явы зусім не ў тым, што ў айчыннай дзіцячай літаратуры мы не бачым камп'ютэраў, відэамагнітафонаў, касмічных караблёў, а ў выкараненні роднай мовы з паўсядзённага ўжытку. Хіба ж можна, не ведаючы мовы, чытаць кніжку, напісаную на гэтай мове?

Узгадваю сваё вясковае дзяцінства. Першай кнігай для мяне, як і для ўсёй вясковай малечы, была беларуская чытанка. Змешчаныя ў ёй творы былі блізкія мне, бо напісаны на той мове, на якой размаўлялі мая маці, бацька, дзед, бабуля, нашы суседзі, мой першы настаўнік. Ды і пазней, ужо ў Сялібскай сямігодцы, дзе я вучыўся, усе прадметы выкладаліся на роднай мове. На ёй вёў урокі не толькі настаўнік беларускай мовы і літаратуры Пётр Мікалаевіч Рунец, які, дарэчы, стаў дзіцячым пісьменнікам, але і выкладчык фізікі Барысевіч, і дырэктар школы Залуцкі, і іншыя настаўнікі.

З якім захапленнем мы чыталі творы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Янкі Маўра, Змітрака Бядулі, Міхася Лынькова!

А што я бачу сёння? Такога ігнаравання беларускай мовы не было нават у самыя жорсткія часы камуністычнага праўлення. Нейкі прасвет, праўда, з'явіўся пасля таго, як быў прыняты закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы. На ёй загаварылі нават некаторыя міністры. Пачалі ўзгадваць матчыну мову раённыя чыноўнікі. У кіёсках не залежваліся беларускія газеты "Звязда", "ЛіМ", "Чырвоная змена", часопісы "Полымя", "Маладосць", "Вожык", "Родная прырода".

А перайшлі на так званае двухмоўе, і ўсё пакацілася назад. Каб не абвінавацілі ў нацыяналізме, тыя ж чыноўнікі баяцца слова сказаць на роднай мове. Ды што там чыноўнікі! Настаўнікі беларускай мовы і літаратуры толькі на ўроках размаўляюць па-беларуску, а на вуліцы ці дома ад іх і слова беларускага не пачуеш. Не гучыць сёння гэтае слова ў сем'ях. Нядаўна мой знаёмы расказаў пра сваю ўнучку, якая сёлета пайшла ў першы клас беларускай школы. Запытаўся ён у яе:

— Хорошая у вас учительница?

— Хорошая, только говорит не по-нашему...

"Не по-нашему", значыць не па-руску... І гэта ў цэнтры беларускага Палесся! Ну чаго тут можна чакаць? Пры такіх варунках нават самы геніяльны твор, напісаны па-беларуску, не дойдзе да чытача. Гэтак жа, як да мяне не дойдзе твор, напісаны пісьменнікам з Бангладэш ці Анголы, пакуль яго не перакладуць. І тут ніякі Віні-Пух нас не ўратуе.

Я, вядома ж, не супярэчу, трэба пісаць новыя творы для дзяцей, якія б адпавядалі рэаліям часу. Але, як слушна сцвярджае Уладзімір Ліпскі, "На першым этапе жыцця чалавек павінен спазнаць хараство прыроды, ласку матчыну. Не трэба хіліць яго ў рабства "відзікаў". Думаецца, не трэба скептычна ківаць і на тых жа "Палескіх рабінзонаў" ці "Міколку-паравоза", на якіх выхоўвалася ўжо не адно пакаленне. А хіба не зацікавяць дзяцей, пры веданні мовы, творы Васіля Віткі, вершы Віктара Гардзея і іншых беларускіх пісьменнікаў? Але найперш трэба, каб дзеці ведалі родную мову. А гэта ўжо залежыць не ад пісьменнікаў, а ад кіраўнікоў нашай дзяржавы.

**Аляксей КАЎКО,**
**пенсіянер**

*г. Іванава, Брэсцкая вобл.*

маладосці няздольны паэт, той і ў старасці асабліва не вылучаецца вялікімі здольнасцямі сярод сваіх аднагодкаў. У літаратуры, як у кожнай вытворчасці, існуе прафесійны адсеў. І адсейваюцца вельмі многія з тых, з кім пачынаеш творчы шлях. Добра, што цяпер стараюцца ўсіх успомніць, надрукаваць даўно забытае. Але трэба прызнаць, што не ўсё з забытай спадчыны, што трапляе на старонкі літаратурных выданняў, мяняе панараму беларускай літаратуры.

**— Беларускую літаратуру абвінавачваюць у тым, што яна яшчэ "маладая", "неразвітая", што ў ёй шмат незапоўненых нішаў — не распрацаваныя пэўныя жанры, формы... Якія, на вашу думку, "незапоўненыя нішы" яшчэ чакаюць запаўнення?**

— Усё залежыць ад таго, якія літаратары з'яўяцца. Я думаю, тое, што робіць рух у літаратуры і робіць саму літаратуру рухомай — гэта яе ўнутраныя якасці. Ні ў якім разе я б не перакідваўся на знадворнае. Аднаму падабаецца пісаць лесвічкаю, а другі занатуе верш у выглядзе келіха, — гэта фармальнае, знадворнае. Наша мова напагатове да таго, каб шмат новага адкрыць у тых памерах і тых формах, у якіх яна развіваецца, гэта значыць, у традыцыйных. Я не скажу, што гадоў праз дваццаць-трыццаць прыйдзе новы Купала, не... Гэтага не будзе. Але што новы творца будзе мець па-купалаўску моцны творчы зарад — у гэтым я ўпэўнены.

**— Але маладзейшае пакаленне літаратараў прыходзіць у беларускую літаратуру часта адлучанае ад моўнай стыхіі вёскі. Беларускую мову яны засвойваюць па кнігах, па гістарычных крыніцах. І гаворка, на якой яны размаўляюць між сабою, напэўна, будзе незразумелай вясковым людзям...**

— Але з другога боку нічога няма больш трывалага за мову. Так, з пераходам вялікай часткі моладзі ў горад, з тым, што беларуская мова пачала быць мовай, як вы кажаце, "тусовак", перасталі прышчапляцца і былыя густы. Што ж, бабулі падабаўся андарак і вышытая кашуля, а сённяшнім дзяўчатам — чуць прыкрыць адзін бачок адным кавалачкам тканіны — і ўжо даволі вопраткі. Думаю, што наша мова шмат яшчэ чаго вытрывае. І нас яшчэ пачуе ўвесь свет.

**— Вы былі знаёмыя з многімі рускімі празаікамі, паэтамі. Як яны ставіліся да беларускай мовы і літаратуры? Вядома, што сёння гэтае стаўленне, мякка кажучы, неадназначнае.**

— Я не думаю, што тыя, у каго з'яўляюцца анацыянальныя, шавіністычныя настроі, руския пісьменнікі. Чалавек, які любіць сваю мову, любіць і паважае мову суседа. І я не ведаю больших сяброў беларускай літаратуры, чым той жа Твардоўскі, чым Аляксандр Пракоф"еў, Усевалад Раждзественскі, ці сын Карнея Чукоўскага пісьменнік Мікалай Чукоўскі. Я ведаю, што калі Твардоўскі ідзе ў беларускі ЦК, куды яго не запрашалі, на абмеркаванне паэмы"Сцяг брыгады" Аркадзя Куляшова, ідзе, каб абараніць паэму і паэта,— то гэта ідзе сябар. Асаблівая дружба ў нас была з ленінградскімі пісьменнікамі, можа быць, большая, чым з маскоўскімі. Мабыць, і таму, што ў Ленінграда даўнія сувязі з Віцебшчынай. У Ленінградзе быў гандлёвы Віцебскі рынак, віцебскія сяляне і рабочыя прыязджалі туды на працу. І гэта шмат значыла.

**— Ад сустрэчы 2001 года многія чакаюць нечага незвычайнага. Хаця наўрад ці ва ўсіх такія спадзяванні спраўдзяцца. А надыход якога года вы сустрэлі найцікавей?**

— Найцікавей я сустрэў надыход 1942 года. Тады я быў у Спаскіх казармах у Маскве. Чакаў новага прызначэння. У Маскве знаходзіліся мая жонка і яе айчым. А тут якраз усё начальства разбеглася, і ніхто не можа даць мне звальняючы талончык на выхад. Трэба ж было і натрапіць на патрэбнага чалавека. Я ведаў, што мой камандзір узвода мне звальніцельную не дасць, бо ў нас з ім былі адносіны не вельмі. А палітрук дасць. Нарэшце сустрэўся не палітрук нашага ўзвода, а палітрук усяго рэзерваў Маскоўскай ваеннай акругі. "Ну што, не пускаюць? Дык у цябе ж тут дом ёсць, сям'я! Як жа цябе не пусціць?" І напісаў звальніцельную на тры дні. І вось я паехаў да сваіх. Аказалася, што жонка са сваім айчымам, дазнаўшыся, што мяне не адпускаюць, паехалі сустракаць новы год да знаёмых. І я нават ведаю, да каго, але не ведаю іх адраса. Пайшоў да Павелецкага вакзала. Там жыла сям'я Пеўзнераў. Восем хлопцаў у іх было, шасцёра, здаецца, не вярнуліся з вайны. Стаў я насупраць іх дома. Гляджу — і ў іх усе вокны цёмныя. У гэты час падыходзіць да мяне чыгуначнік і гаворыць: "Ну што, салдат, ці многа маеш куды ісці, ці няма куды?" Я кажу: "І тое, і тое..." "Дык, ведаеш, пайшлі да мяне. У мяне сынок добры, жонка яшчэ маладая, вясёлая, песні паспявае. Ну, а калі на стале скупавата будзе — дык у цябе ў торбачцы, напэўна, нешта ёсць." Я кажу: "Ну, ёсць..." І пайшоў я да свайго запрашатага. Кватэра непадалёк ад вакзала, невялічкая, двухпакаёвая, але вельмі добра на ваенны час выглядала. Там мы адзін аднаму расказалі пра сябе. І аказалася ў нас агульныя знаёмыя. І сярод тых знаёмых — тыя, да каго пайшлі мая жонка і цесць. Падзякаваў я свайму гаспадару за гасціннасць і пабег да сваіх. І больш мы з ім ніколі не сустракаліся.

**— А што б вы пажадалі тым, хто збіраецца сказаць сваё слова ў літаратуры?**

— Трымацца за родную мову! А новым словам у беларускай літаратуры павінен стаць твор, у якім бы адлюстравалася і частка дваццатага стагоддзя, і частка дваццаць першага, і з гэтага стварылася нейкае адзінства. Чалавецтва ўсё-ткі ідзе не да разнабою, а да адзінства, бо хаця зараз шмат войнаў і крывавых непаразуменняў, але людзі хочуць стаць бліжэй адзін да аднаго.

**— Але нават нашай творчай інтэлігенцыі, у прыватнасці, так не хапае больш блізкіх, сяброўскіх адносін.**

— Гэта залежыць ад экаміцы. Раней клубы былі абавязковай прыналежнасцю жыцця інтэлігенцыі. Адзін хадзіў у клуб чыгуначнікаў, другі — у клуб настаўнікаў. Але такія фармацыі могуць стварыцца толькі на пэўнай матэрыяльнай базе. Без гэтага мы будзем сядзець па адным, не зважаючы на тое, што, здаецца, і людзі мы не дурныя, і не дрэнныя. А вось часам праседзіш тыдзень дома і табе ніхто не патэлефануе. Я асабіста маю гэта за вялікую страту.

**— А з чаго для вас пачнецца новае стагоддзе?**

— У верасні распачаў новы сшытак вершаў. На яго першай старонцы запісана: "У свой час новы год, справаздачны, бюджэтны, дзяржаўны, пачынаўся з першага верасня. Паколькі надзеі перазімаваць вельмі і вельмі няпэўныя, бяруся за гэты сшытак, балазе ён вельмі павабны, і просіцца быць запісаным. Такім чынам, пачынаю..." І вось з першага верасня ўжо запісана трыццаць старонак.

**— Што ж, напэўна, так і трэба — нягледзячы ні на якія даты і часавыя межы, для паэта год пачынаецца і канчаецца з вершам. Віншуем вас ад усяе рэдакцыі і ад нашых чытачоў з Новым годам і жадаем, каб гэты ваш сшытак быў спісаны да канца і меў працяг у наступным сшытку, як сапраўдная паэзія, якая не скончаецца ніколі.**

Максім ЛУЖАНІН

## Думкі ўслед

*Кідаюць людзі радзіму,*
*Гнуцца пад небам чужым.*
*Чым жа не дагадзіла,*
*Або пакрыўдзіла чым?*

*Што ж іх так вабіць за светам,*
*Думак ці спраў кірмаш?*
*Кажуць, другое паветра,*
*Дома — такога няма.*

*Праўда: у нас няўроды, —*
*Трэба гаючы дождж.*
*Пад статуяю Свабоды*
*Вільгаці той не больш.*

*Хмары з дажджом*
*на гоні*
*Можам зазваць і прыняць,—*
*Хай да нас свет гамоніць,*
*Як да раўні раўня.*

*3.IX.2000*

Андрэй ФЕДАРЭНКА

# САКРЭТ



АПАВЯДАННЕ

не злосная, не заплаканая, на жонку алкаша не падобная. І апранута даволі ахайна: фартушок, кофтачка імпартовая (з «гуманітарнай» дапамогі неданоскі, падумаў Павал, і не памыліўся), у маленькіх, гумовых, якія дзеці ў дождж абуваюць, боціках — не забываць нічога, усё запамінаць!..

— Гэта ваша прозвішча... — Павал прачытаў з паперкі, хоць помніў гэтае прозвішча не горш, чым уласнае.

— Маё. А што?

— А кім вам даводзіцца... — ды ізноў з паперкі.

— Сынам... А што такое?

— Сынам? — гэты новы, даволі нечаканы паварот прымусіў яго на міг задумацца. Калі даўно, яшчэ мінулай вясною, ён упершыню адкрыў у друку плагіятара і паспрабаваў уявіць яго, толькі два шаблонныя тыпы ўпарта яму маляваліся: першы — стары, альбо малады, што бывае часцей, графаман, замучаны вярганнем сваіх рукапісаў, і другі — звычайны якісь п'яніца, праўда, з сярэдняй ці нават з вышэйшай адукацыяй — такіх поўна цяпер. якому не хапала на банальную апахмелку. У рэальнасці ўсё атрымлівалася інакш. Гэты «клапатлівы сынок», гэты хітра-абачлівы перастрахоўшчык не належаў ні да першага, ні да другога тыпу. І адразу ж новымі гранямі бліснула для Паўла гэтая гісторыя...

— Бачыце, — пасля кароткай замінкі пачаў ён, — я сам журналіст. І па заданні сваёй рэдакцыі хачу напісаць пра вашага сына ў газету. Пра яго творчыя поспехі. Адкажыце мне, калі ласка, усяго на некалькі пытанняў, гэта зойме не больш пяці хвілін.

Вось так размаўляць трэба! Раз — і супакоіўся чалавек, і акрыяў, і ўжо шчаслівы ад таго, што не спраўдзілася благая навіна, і ўжо ўсю душу табе вывернуць гатовы...

— Дык чаго ж мы стаім? — Праходзьце ў хату! Дый перакусіце заадно, вы ж з дарогі! У мяне і капуста ў печы — як ведала, і з грыбамі, і з мясам...

— Не-не, не магу. Няма калі, — гэта было б тое самае, як паесці гэтай капусты з грыбамі, а потым напляваць у міску. — Давайце лепш у двары пасядзім, дзе-небудзь на лаўцы, — прапанаваў Павал, нават яшчэ не ведаючы, ці ёсць тут увогуле лавачка, але азірнуўся і ўбачыў яе: у закутку каля плота, зацененая дрэвамі, маленькая, акурат двум прыляпіцца, і нізенькая — пад гаспадыню.

— Ды і куру я, — дадаў ён.

— Ну і што, курыце на здароўе! Мае абодва курылі, дык я любіла!

Аднак, хаця і з неахвотай, пайшла ўслед за ім. Перш чым сесці, абмахнула фартухом дошку. У высокага Паўла, калі ён апусціўся на лаўку, калені ледзь не дасталі падбародка.

— Абодва — гэта хто? — спытаў ён, забаўляючыся з цэлым, цвёрдзенькім, нераспакаваным яшчэ пачкам цыгарэт.

— А чалавек мой, і сын. Чалавек памёр, а сын у горадзе, на заводзе — вы ж ведаеце, мусіць? Дык і курыць няма каму...

— Вашага сына, — усё яшчэ мякка адказаў Павал, — я ведаю толькі завочна. Па публікацыях у газетах і часопісах. Дык ён, значыць, друкуецца, і ўказвае ваш адрас, так? І вы атрымліваеце за яго ганарар... ну, грошы па-нашаму, — пераклаў ён.

— Так! Па пошце мне прысылаюць. Я ўжо нарадавацца не магу, я ўжо ж не думала, не гадала, што ён калі ў людзі выб'ецца... Піў жа ён у мяне, крэпка піў — вы ж мо ведаеце, і лячыўся, і... — не дагаварыла. — Усяго было! Аж во ўзяўся за розум, дзякаваць Богу...

— Ды няўжо гэта такія вялікія грошы? — сказаў ён са шчырым здзіўленнем. — Ну, я сам друкуюся — гэта ж капейкі.

— Канечне, вам, маладому! А мне ж гэта як з неба сыплецца! Я хоць і сабе што купляць стала, і хаваю — мо ўнукі калі будуць, ён жа нежанаты пакуль, але мо знойдзе, дасць Бог...

— Мо знойдзе, — пацвердзіў Павал. — Скажыце, а даўно ў яго талент прарэзаўся? Даўно яго творчы сверб ахапіў... ну, — як і ў выпадку з ганарарам вымушаны быў паправіцца ён, — як гэта ваш сын ні з таго ні з сяго друкавацца пачаў, пісьменнікам зрабіўся? Гэта ж не так проста. Многія гадамі вучацца, і начамі не спяць — чытаюць, пішуць, а ўсё не атрымліваецца. А ў яго неяк адразу, дужа лёгка ўсё гэта пайшло.

— Дык а ён у мяне заўсёды быў башкавіты! І ў школе хвалілі, і ў арміі, і... — зноў не дагаварыла. — Дзе б ён ні быў, хвалілі! Гэта каб не друзьзя, каб не тая кампанія, што яго ўцягнула, то ён залаты быў бы!..

— Дык ці даўно?

— Гады паўтара, мо два, — адказала старая, а Павал паправіў яе ў думках: не паўтара, і не два, а роўна год і сем месяцаў, калі ўжо быць дакладным. Яму добра запомніўся той цёплы травеньскі дзень, чацвер, здаецца, калі ён, пераглядаючы ў рэдакцыйным кабінеце прэсу, у адной з газет зусім выпадкова натыкнуўся на знаёмае апавяданне. Ну, так і ёсць. Твор рускага савецкага пісьменніка С. Маконіна. У Паўла дома — не ў гарадской кватэры, дзе ён перыядычна праводзіць «чысткі», пазбаўляючыся ад рознага літаратурнага хламу, а ў вясковай хаце — нават павінна валяцца недзе гэтая тоўстая кніга. Яму і ўбіўся ў памяць гэты Маконін, бо Павал акурат еў тады, адной рукой перагортваючы занудныя старонкі, а другой макаючы аладкай у падсмажаную на сале яечню...

Аднак у газеце нідзе не было сказана, што гэта пераклад з рускай. Над апавяданнем — вельмі пасрэдненькім, дарэчы, — красаваліся іншыя імя і прозвішча. Спачатку ён не надаў гэтаму значэння. Адно на якую хвільку пацешыла, што вось нехта з калег даў маху, а ён, «пільны», «начытаны» Павал, угледзеў. На двары, пад самым акном, падстрыгалі з газонаў раннюю веснавую траўку. Трашчалі, бы мапеды без глушыцеляў, пыхкалі сваім бензінавым дымам сенакосныя машыны — гэтая пародыя на такі ўрачысты, ціхі, такі любімы працэс касьбы, гэты няўклюдны плагіят з вострай, звонка адкляпанай, аб росныя спелыя травы сточанай літоўкі, якая не косіць, не рэжа, не брые і не свішча, а менавіта спявае ва ўмелых руках... І не падзяліўся ні з кім Павал сваёй знаходкай таму, што адразу ж забыў на яе, як толькі падышоў і шчыльна зачыніў акно. І пазней ніколі, магчыма, не згадаў бы, каб не звычка сачыць за літаратурнымі навінамі і каб не дапамога самога плагіятара, які да катэгорыі гультаёў яўна не адносіўся.

Перакладзеныя з рускай творы яго пачалі з'яўляцца больш-менш рэгулярна. То тут, то там, на старонках таго ці іншага выдання Павал міжволі натрапляў на знаёмыя, несумненна, некалі ім чытаныя навэлкі, кароткія апавяданні, феналагічныя замалёўкі, экалагічныя нарысы (адзін быў пра возера Нарач, дзе пад шум кедраў і лістоўніц чужыя сказы байкальскімі хвалямі білі ў панурыя прыбярэжныя стромы).

Плагіятар працаваў пад рознымі псеўданімамі, але пакрысе Павал навучыўся беспамылкова распазнаваць гэтую руку. Спачатку ён нават хадзіў у бібліятэку (з адчуваннем грыбніка, што выпраўляецца з пустым кошыкам у восеньскі, густа-белым туманам захутаны лес), і там, корпаючыся ў падшыўках старых савецкіх і новых расейскіх часопісаў і газет, некалькі разоў перажыў ціхую прыемнасць ад удачы. Потым гэты занятак кінуў. І без таго было зразумела, што чалавек здзірае ўсё ад першага да апошняга слова, ад кропкі да коскі. Паўлу часта ўяўляўся сам працэс: позні вечар, круг святла на стале, галава набок, кончык языка злёгку прыкушаны, з-пад пяра шпарка выскокваюць літаркі, а побач, заўжды пад рукою — «Русско-белорусский словарь» пад рэдакцыяй Атраховіча-Крапівы. Не заўсёды і ў бібліятэцы перападалі знаходкі. А галоўнае, Павал з уласнага вопыту ведаў, нельга дапускаць, каб хобі ператваралася ў мэту, у працу. Тут трэба было злавіць гэты момант ператварэння, спыніць яго, застопарыць і балансаваць на ім, як на вузкай кладцы: вось у чым асалода, шаноўныя...

Канечне! На добры лад, калі б палюдску, не ў бібліятэку трэба было ісці, а да першага, які «прамаргаў», рэдактара. Распіць з ім ціхенька бутэльку, пасмяяцца з недарэчнасці, папляткарыць крыху пра сяброў-літаратараў і выйсці з кабінета нармальным чалавекам, хоць і з захмеленай, праўда, галавой, затое з чыстым сумленнем. Але тут пачаў ужо спрацоўваць нейкі дурны азарт. Ды чаму адзін ён, Павал, павінен быць такім пільным? Такім начытаным? Тут ужо сам плагіятар адыходзіў на другі план, робячыся яму ледзь не саюзнікам, а на пярэдні выступала праверка сябе суадносна іншых. Проба, хто на што варты — калі не ў жыцці, дык прынамсі, у літаратуры. І каб зараз хтосьці знайшоўся і выкрыў плагіятара без яго, Павал толькі парадаваўся б, як радуюцца аднадумцу, толькі ўздыхнуў бы з палёгкаю, як лёгка бывае, калі тваю доўгую і блытаную думку субяседнік пераказвае адным кароткім, разумным сказам.

Але ўсе маўчалі. Час бег. Плагіятар, акрылены поспехам, смела працаваў.

Пачаўшы з месцаў аддаленых: часопіс «Уладзівастоцкія зоры», альманах «Амур», тыднёвік «Россыпы Алтая», — ён памаленьку прасоўваўся бліжэй да цэнтральнай і еўрапейскай частак: курскія «Славяне», вяцкі «Набат»... Цікава было назіраць у гэтым руху пэўную заканамернасць, нейкую адваротную прагрэсію: чым хутчэй набліжаўся ён да Еўропы, тым больш аддаляўся храналагічна — у часе. Мільгануў пераклад на беларускую фрагмента «Вясковых нарысаў» Авечкіна... А вось ужо ранні Паўстоўскі, бесталкова падпраўлены і няўмела перакладзены, дзе кожнае «непаўстоўскае» слова біла па вачах і па нервах, крыкам крычала: «я не на сваім месцы, забярыце мяне адсюль, замяніце мяне!..» Калі ў адным з часопісаў Павал убачыў пераклад школьна-праграмнага Прышвіна, цярпенне яго лопнула. Тады ён і зразумеў, што больш цягнуць нельга.

План будучага артыкула быў абдуманы ім яшчэ раней. На першы погляд бязвінны гэты фельетончык меў двайное дно. У з'едлівых параўнаннях, у дасціпных метафарах, у слоўных выкрунтасах, якія так падабалася смакаваць у думках Паўлу, яшчэ больш іх завастраючы, прыхавана была каверза. Гэты артыкул дубінай павінен быў апусціцца на бедныя галовы ні аб чым не падазраючых яго калег, катком для ўкладкі асфальту па іх праехацца, і хоць вельмі хутка, Павал ведаў, яны абтрусяцца, распрамяць плечы, аб'яднаюцца і будзе яму тады «атрымоўвай, вёска, трактар», пачнецца тады ўкладка «пад асфальт» яго самога — хоць ён выдатна ведаў усё гэта, але ані не баяўся. Ён адчуваў у сабе сілы і быў гатовы да змагання, нават і супраць усіх. Яшчэ весялей было — адна думка пра той выклік, які яму неўзабаве кінуць, бударажыла кроў, надавала агрэсіўную энергію душы і целу.

Не хапала апошняй кропкі, апошняга мазка пэндзлем — гэтай паездкі. Дабыць каардынаты аказалася лягчэй лёгкага. Ён проста пазваніў у рэдакцыю, дзе апошні раз быў надрукаваны плагіятар, і яму прадыктавалі адрас.

І вось ён тут. І цяпер ведае ўсё. Несумненна, з гэтымі новымі фактамі, з гэтымі папраўкамі артыкул яшчэ больш ажывае. Плагіятару, хутчэй за ўсё, знойдзецца апраўданне. Не дзеля таннай славы, не дзеля апахмелкі за небагатыя ганарарныя грошы ідзе чалавек на непрыгожыя свае ўчынкі — пра родную маці дбае. Тым больш выпукліцца на гэтым фоне... — думаў Павал, напаўвуха слухаючы жанчыну.

Ён сядзеў з ёю побач на лаўцы, смактаў цыгарэту і ўсё ніяк не мог наважыцца перайсці да галоўнага. З агарода пахла яблыкамі і кропам. На серабрыстым гамачку павуціны, развешаным паміж лаўкай і плотам, вісеў цыліндрык попелу. Сонца прабівалася праз цень галін над галавою, звінела лета, і недзе далёка-далёка, куды сто гадоў ідзі — не дойдзеш, «закідалі хлопцы вуды, хто на хлеб, на чарвяка»...

Нарэшце ён старанна ўтаптаў недакурак у цвёрдую каля лаўкі зямлю і падняўся.

— Я ўжо такая радая, мо хоць пад старасць...

— Вы ведаеце, што ваш сын злодзей? — абарваў ён яе.

Такога вераломства яна не чакала, зусім не была падрыхтавана да гэтага. Таксама падхапілася, спалохана на Паўла гледзячы, відаць, напужаная не так гэтай раптоўнай пераменай у яго паводзінах, як ягоным голасам, што зрабіўся без дай прычыны такім строгім, халодным, і ў якім яна пачула варожасць да сына.

Аднак хутка справілася з сабою. Выраз страху на твары змяніўся на рашучасць. Цяпер яна гатова была бараніць сваё дзіця да канца і любымі сродкамі.

— А вы на яго не нагаворвайце, — прамовіла таксама і халодна, і строга. — Як ён краў, то ён за сваё адседзеў! Адмучыўся, бедны, ні за што ні пра што! Гэта ж не ён — кампанія крала, а як ён мяккі, за сябе пастаяць не можа, дык на яго і спіхнулі! Папаездзіла я на тую Апанскую, папавазіла перадач, — голас яе ўздрыгнуў, яна ледзь не ўсхліпнула, а ў насцярожаных вачах, якія не спускала з Паўла, чыталася: можа, гэтым цябе праняць? Можа, на шкадаванне клюнеш?

— У кампаніі ён краў, ці адзін, на Апанскай сядзеў, або на Уманскай — мяне гэта мала цікавіць, калі шчыра; я нават не ведаў аб гэтым. Я ведаю толькі, што цяпер ён крадзе чужыя творы. Разумееце? Ён перапісвае тэксты з газет, часопісаў, кніг і друкуе іх, як нібыта свае.

Маці плагіятара слухала з недаверам.

— Дык а вам хто так не дае рабіць? — сказала яна.

— Гм... Не дае так рабіць, — паўтарыў Павал, мімаходзь любуючыся яе мысленнем. — Але так нельга рабіць! Проста нельга, і ўсё. Як вам лепш растлумачыць... Ваш сын выбраў самы лёгкі шлях у літаратуры. Яму не вядомыя творчыя пакуты. Ён ніколі не адчуе слодыч знаходкі аднаго-адзінага патрэбнага слова, — панясло Паўла, — ён не зможа ажывіць нудны тэкст трапным мастацкім вобразам. І гэта не кажучы пра этычны момант, нават крымінальны...

Яна нічога не разумела.

— Мала таго: ваш сын падстаўляе іншых людзей — рэдактараў, пісьменнікаў. Яны ж добрыя, наіўныя, даверлівыя, як дзеці. Іх вельмі лёгка падманваць. Разумееце? Яны нараджаюць свае творы ў пакутах, таму ім і ў галаву не прыходзіць, што нехта можа проста так, без дазволу, беспардонна выкарыстоўваць плады іхняй працы...

— То чаго ж яны не глядзелі? Глядзець трэба было!

Проста абяззбройвала гэтая логіка. Але і тут Павал не змог не адзначыць, што вось і яшчэ адным цікавым бокам раскрываецца гэтая гісторыя: ды не зможа ён, і ніхто ў свеце не зможа даказаць маці, што яе сын горшы за астатніх, як не дакажа ёй і тое, што красці духоўнае — гэтаксама непрыгожа, такі ж грэх, як і машыну дроў з лесу ці мяшок камбікорму з фермы.

Размова была скончана. Больш не было аб чым гаварыць.

— Калі гэта выкрыецца, і вам, і яму сорамна будзе, — толькі і сказаў ён напаследак.

— Выкрывайце! — адрэзала яна. З добрай, даверлівай жанчынкі, якая звала яго ў хату і збіралася пакарміць, і выліваla яму ўсю душу, яна на вачах ператварылася ў каргу. — Мала яму ўсяго было, дык яшчэ і вы... Дзяўбіце!

Замест развітання Павал вінавата пасміхнуўся ёй і пайшоў да веснічак. А ўслед яму прагучала:

— Як вы завідваеце, дык ён жа не вінаваты!

— У чым ён не вінаваты? — павярнуўся Павал.

— Што лепей за вас!..

Заставалася толькі развесці рукамі. Такая вось паездка, такая гутарка, такія з яе высновы...

На вуліцы ён папіў вады, нагнуўшыся над калонкай, расставіўшы шырока ногі, каб не абпырскаць чаравікі.

І ўсё ж не стыкоўвалася штосьці. Не вытанцоўвалася. Шпунты не траплялі ў пазы, зубчыкі не чапляліся адзін за другі і механізм не жадаў круціцца. Ды які механізм? — увачавідкі ўся гэтая задума з «выкрываннем» рассыпалася ў прах. Ну, з'явіцца яго артыкул. Гэта ж проста Госапаці (Госпадзі), як усклікавае кітаец у булгакаўскай п'есе! Пазвоняць пару прыяцеляў, павіншуюць няшчыра. Нехта на вуліцы руку паціісне, адводзячы вочы. Усё. Усё!

(Працяг на стар. 13)



шматканальную студыю гуказапісу і набыў вядомасць як высокапрафесійны гукарэжысёр. Прынамсі, у ягонай студыі рабілі запісы сваіх праграм Аляксандр Саладуха, "Сябры". Цяпер яго ведаюць у асяроддзі амерыканскіх джазавых гітарыстаў. Рэгулярна выступае ў блюз-клубах штата Нью-Йорк.

Таксама вядомы джазавы і рок-гітарыст Міхась Сапожнікаў. Іграў у рэстаранных аркестрах Данецка ды Каўнаса, з Яўтуховічам разам працаваў 1,5 года ў рэстаране "Трыо" штата Нью-Джэрсі. Удзельнічаў у запісе CD і выдатны бас-гітарыст Вадзім Мядзведзь з нью-йоркскага рэстарана "Расія".

І яшчэ два беларускія музыканты. Гэта ўдарнік Валерый Баглай ды скрыпач Аляксей Яўтуховіч, брат Зміцера. Аляксей скончыў нашу Акадэмію музыкі па класе прафесара В. Зяленіна, працаваў у Дзяржаўным канцэртным аркестры пад кіраўніцтвам М. Фінберга, у Дзяржаўным камерным аркестры Беларусі. У ЗША быў выкладчыкам па класе скрыпкі, канцэртмайстрам сімфанічнага аркестра. Цяпер мае прафесію інжынера па камп'ютэрнай тэхніцы.

Дарэчы, адзін з мастакоў-дызайнераў, якія афармлялі CD, Марат Каракуз — таксама колішні скрыпач, гамяльчанін...

●

Свой першы кампактдыск Зміцер Яўтуховіч назваў "Mystery of the Dark Ocean" ("Таямніца Цёмнага Акіяна"), улучыўшы ў гэтую "таямніцу" 17 інструментальных кампазіцый.

Прызнацца, зазірнуць у "Таямніцу Цёмнага Акіяна" мне ўдалося не адразу: не маючы свайго прайгравальніка для CD, мусіла "напрошвацца ў госці". Затое слухала разам з людзьмі, якія добра памятаюць З. Яўтуховіча, дасведчаныя ў яго музыцы і паважліва ўспрынялі новы прадзюсерскі ды творчы праект кампазітара, да якога ён ішоў добры дзесятак гадоў.

Больш за гадзіну гучыць з лазернай кружэлкі стылёвы cool-jazz, у якім чуецца-пазнаецца "голас" аўтара, лагодна-лірычны, абаяльна-зухаваты, крыху сентыментальны, крыху маркотны... Не насцярожваюць слых "чужыя" інтанацыі, бо музыка — знаёмая: аранжыроўкі п'ес З. Яўтуховіча, джазавыя кампазіцыі на аснове лірычных песень. Амаль усё было напісана з 1984 — да пачатку 90-х у Мінску, Астрашыцкім Гарадку, Гомелі, Петрыкаве, Лідзе... Арганічна ўспрымаюцца тут і дзве самыя свежыя кампазіцыі, створаныя ў Саўт-Рыверы, датаваныя 1997—98-м гадамі. Адну з іх, "Mistery of the Dark Ocean", што дала назву кампактдыску, аўтар прысвяціў сваёй дачцэ Валерыі.

Дарэчы, прысвячэннем пазначаны кожны опус. Элегічная "Інтрадукцыя" — памяці незабыўнага Яўгена Глебава, чый талент З. Яўтуховіч заўжды шчыра шанаваў. Ёсць "музычныя прэзенты" настаўніку — прафесару Д. Смольскаму; старэйшаму калегу І. Лучанку; музыкантам, з якімі супрацоўнічаў, у тым ліку — лідэру "Сяброў" Анатолю Ярмоленку, з кім, дарэчы, мае намер запісаць наступны CD. Найпяшчотная "Восеньская элегія" прысвячаецца жонцы — Іне. Не засталіся без "падарункаў" бацькі, брат...

Што тут казаць? Лепей, вядома ж, слухаць. Захапляцца перазовамі флейты ды гітары ("Oasis"), містычным дыханнем-шэптам хваляў ("Mistery of the Dark Ocean"), блукаць "па сцяжынках" знаёмай мелодыі ("Seashore Park"), сачыць за віртуозным рухам клавішаў ("Journey to the Middle East"), адчуваць хвалюючую сферу гукаў нібыта вялізнага аркестра ("Legend of the Falling Leaves" — "Легенда", прысвечаная, дарэчы, І. Афанасьевай ды М. Скорыкаву), лагодзіць сэрца трапяткімі фразамі фартэпіяна ("Sweet Pastoral")...

Семнаццаць кампазіцый. Семнаццаць імгненняў, кожнае з якіх пазначана сваім вобразным ладам. А ўсе разам— ці гэта мне падалося? — знітоўвае лёгкі настальгічны настрой, з якім слухаеш знаёмы і абноўлены голас іх стваральніка.

●

Андрэй Мікалаевіч казаў, што сын збіраецца наведаць Беларусь. Магчыма, сёлета. З бацькамі ён у добрым кантакце, стараецца дапамагаць. У Яўтуховіча-старэйшага пасля выхаду на пенсію нават з'явілася магчымасць заняцца новай творчай справай: пачаў выдаваць (на правах рукапісу, накладам 299 асобнікаў) сваю газету "Кур'ер палескі". На яе старонках — усё, што хвалюе людзей, ад трагедыі ў Баранцавым моры да сакрэтаў лекавых зёлак, ад спраў у эканоміцы краін-суседак да праблем мясцовай жыллёва-камунальнай гаспадаркі, ад навін з далёкага замежжа да водгукаў іншаземцаў пра нас. "Кур'ер палескі" друкуе гумар, вершы, піша і пра музыку... Але гэта ўжо тэма для іншай гаворкі.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота з архіва "ЛіМа"*

АНОНС

## Падтрымлівае Польскі інстытут

Розныя галіны мастацтва і навукі ахоплівае праграма, распрацаваная Польскім інстытутам у Мінску на першы квартал новага года. Напрыклад, ужо ў студзені мае адбыцца Тыдзень польскага кіно і прайсці міжнародны семінар па праблемах кардыялогіі. У лютым плануецца правядзенне міжнароднага "круглага стала" на тэму: "Ежы Гедройц і Беларусь", выстаўка пад назовам "Польская кніга пра Беларусь, беларуская кніга пра Польшчу", IV фестываль сярэднявечнай культуры "Белы замак", візіт Камернага хору музычна-педагагічнага каледжа імя Л. Выгодскага, канцэрт "Мінск-Варшава-Парыж" (музыка польска-французскай традыцыі ў выкананні беларускіх артыстаў). Сярод выдавецкіх праектаў — "Стэфан Баторы і Усходняя Еўропа яго часу", публікацыя матэрыялаў VIII міжнароднай канферэнцыі "Шлях да ўзаемнасці" і "круглага стала" на тэму: "Ідэя польскасці і ідэя беларускасці на мяжы тысячагоддзяў: да вызначэння паняццяў". У сакавіку да мінчукоў завітае фотавыстаўка "Раманы"...

Зразумела, што гэтыя ды іншыя навуковыя, мастацкія, асветніцкія праекты, якія падтрымлівае Польскі інстытут, адыццяўляюцца намаганнямі іншых устаноў, у тым ліку й міжнародных, навуковых і творчых калектываў, культурніцкіх арганізацый Беларусі, нашых даследчыкаў, мастацтвазнаўцаў, артыстаў. Гэта Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт, Беларуская асацыяцыя "Кінаклуб", Беларускі універсітэт культуры, Віцебскі дзяржаўны універсітэт імя П. Машэрава, Беларуская акадэмія мастацтваў, фонд "АРХЭ", Саюз дызайнераў ды інш.

**С. Б.**



выконвалі. А сённяшнія дзеці — гэта асобы. Яны начытаныя, валодаюць разнастайнай інфармацыяй. Ды і агульны ўзровень расце. Мая дачка, Лена Саковіч, навучэнка нашага каледжа, у свае пятнаццаць малюе не горш, чым мы ў свой час у мастацкай вучэльні. І пакаленне бацькоў іншае. Бацькі цяперашніх першакласнікаў — гэта людзі, якія сталелі ў больш вольную эпоху. Яны па-іншаму мысляць, і па-іншаму выхоўваюць дзяцей. На цяперашняга маленькага вучня нельга прыкрыкнуць, ніколі сабе не дазволіш , напрыклад, паставіць яго ў кут. Страшна нават пра гэта падумаць. Бо гэта — асоба з пачуццём уласнай годнасці, з павагай да сябе. Нават рабіць заўвагу лепш сам-насам, у шчырай, даверлівай форме. І дзіця зразумее. З імі цікава. І вельмі цяжка. Цяпер у мяне дзве групы вучняў — дыпломнікі і падрыхтоўчы клас. З дыпломнікамі я працую, як з калегамі, перадаю ім веды... А з малодшымі, хаця заняткі адбываюцца ў форме гульні, я таксама працую як з маленькімі калегамі. Яны прымушаюць паважаць сябе. Сёння старым настаўнікам вельмі цяжка. У мяне быў выпадак, калі вучань вярнуўся з Амерыкі і пытаецца ў мяне: "Якое права вы маеце выкладаць сёння ў свабоднай краіне, хаця вы былі камуністам?". Давялося тлумачыць, што прымалі мяне ў партыю ў арміі, тыя людзі, якім я верыў, — яны прайшлі вайну, мелі ўзнагароды. І я верыў найперш не партыі, а гэтым людзям.

Сёння на нашай кафедры працуе шмат таленавітых педагогаў-мастакоў. Але стаць сапраўдным настаўнікам цяжка. Для гэтага нават мала аднаго таленту. Маладому спецыялісту трэба хаця б тры, пяць гадоў для таго, каб навучыцца разумець і любіць сваіх вучняў. Таму што спачатку ён занадта любіць сябе.

**— У найменні прафесіі "педагог-мастак" ёсць маленькая рыска, якая і аб'ядноўвае два паняцці, і раздзяляе іх, і можа, не заўсёды на раўназначныя часткі...**

— Я — настаўнік, і ганаруся гэтым. Хаця многія гады мяне мучыла, што, пакуль аддаваў сілы і час вучням, мае сябры-аднакурснікі па мастацкай вучэльні зрабіліся вядомымі мастакамі, напрыклад, той жа Уладзімір Кожух, з якім я сядзеў за адной партай. І калі ў мяне за маё жыццё набярэцца каля дзесятка выстаў, то ён выстаўляецца, напэўна, кожны год. Гэта не можа не закранаць...Але пасля пачынаеш разумець, і твае равеснікі-мастакі таксама, што ты зрабіў не менш, а, можа, нават і больш для беларускага мастацтва. Вядома, праблема застаецца. Бо кожны педагог-мастак хоча быць і проста мастаком. Я люблю акварэльны жывапіс. Гэта маё адхланне. Але дзеці адымаюць столькі часу...Не заўсёды пасля працы хапае сіл пісаць.

**— Юныя мастакі асвойваюць акадэмічную школу малявання... А потым нехта з іх раптам пачынае маляваць адны квадрацікі ці прымацоўвае тэлевізар да ўнітазу ў якасці мастацкага твора. Ці не здарыцца так, што ўсе вашы сённяшнія маленькія вучні, прайшоўшы курс акадэмічнага малюнка, пяройдуць да канцэптуальнага мастацтва? Наколькі заканамерны і абавязковы гэты пераход? На Захадзе, кажуць, іншага мастацтва ўжо і няма...**

— Нядаўна ў гімназіі адбыўся тыдзень японскай культуры. Сярод японскай дэлегацыі быў чалавек, прыбліжаны да імператарскай сям'і, бізнесмен. Ён зайшоў у нашу дзіцячую мастацкую галерэю, і адчуў сябе ў іншым свеце. Бясконца фатаграфаваў працы, не мог паверыць, што дзеці могуць дасягнуць такога ўзроўню майстэрства. А мы лічылі, што мастацкае выхаванне японскіх дзяцей— гэта найвышэйшы ўзровень. Наш госць патлумачыў, што ў нас, аказваецца, больш захавалася традыцый, сувязяў з народнай культурай, а ў іх цяпер у школах суцэльная камп'ютэрызацыя, і многае духоўнае згублена. Ды вось нядаўна група беларускіх мастакоў была ў Італіі. Іх карціны выклікалі незвычайную цікавасць, бо ў іх паказаны дух нашага народа. Самая наведваемая выстава Італіі была! Я не супраць абстрактных прац. Хаця я рэаліст у мастацтве, і нават рамантык, часам і мне хочацца зрабіць умоўны, фармальны малюнак. Але... Чаму сёння нашых педагогаў -мастакоў запрашаюць у Амерыку, у Германію, у іншыя краіны? Адна наша выпускніца зараз вучыцца у Галандыі. Там яна аказалася адзінай сярод студэнтаў, хто ўмеў алоўкам намаляваць чалавека. Пасля яе нават папрасілі больш не маляваць так. Відаць, разбуралася "камп"ютэрная аўра", якая склалася ў той навучальнай установе. Абстрактнае мастацтва на Захадзе пануе не таму, што яно вышэй за рэалістычнае. А таму, што нешта страчана з духоўных каштоўнасцяў.

**— Вядома, што асабліва адораныя дзеці патрабуюць асаблівых адносін. Але якімі гэтыя адносіны павінны быць? Колькі ёсць сумных прыкладаў, і не толькі ў выяўленчым мастацтве, калі юная "зорка", з якой "носяцца", ствараюць умовы для творчасці, выдаюць кніжкі ці арганізоўваюць персанальныя выставы, вырасшы, "згасае"! Прычым не проста застаецца на тым жа творчым узроўні, але і "ламаецца" як асоба, бо , страціўшы статус "юнага даравання", вымушана лічыцца не толькі са сваімі равеснікамі, якіх нейкі час пераўзыходзіла, але і з кантэкстам усяго сусветнага мастацтва.**

— Кажуць, што маленькіх дзяцей нельга хваліць, гаварыць, што яны таленавітыя... Але я не баюся сказаць вучню: "Табе Бог даў талент", таму што дадаю: "Але гэта нічога не значыць. Проста спытаецца з цябе ў дзесяць разоў больш". Нядаўна на праглядзе мы адзначылі творы аднаго навучэнца трэцяга курса. Ён быў незадаволены, што яго пры ўсіх пахвалілі. Але на першым курсе ў гэтага хлопца было "тры" па малюнку! Значыць, поспех — вынік ягонай працы. "Цяпер ты не маеш права працаваць горш, вось у чым сэнс нашых слоў", — патлумачыў я. Але праблема ёсць... Зараз мы рыхтуем выставу "Новыя імёны", якая адкрыецца ў канцы студзеня. Наведнікі яе пазнаёмяцца з працамі лепшых з юных мастакоў — і навучэнцаў нашага ліцэя, і іншых. Але ж гэта такая адказнасць і на дзецях, і на педагогах, якія прадстаўляюць там сваіх вучняў! Можа здарыцца і так: прадэманстраваў юны талент — і тым загубіў яго.

**— Што самае складанае ў вашай прафесіі?**

— Страшней за ўсё — сапсаваць талент дзіцяці, якога даверылі табе як настаўніку. Але, як ні сумна, так адбываецца вельмі часта. Я бачу шмат студый, дзе ў маленькага дзіцяці выкарыстоўваюць увесь прыроджаны творчы патэнцыял, выстаўляюць яго карціны на розных выставах, пасылаюць на конкурсы, а калі дзіця вырастае ў падлетка, не ведаюць, як яго вучыць далей, і выштурхоўваюць прэч. Дзе ёсць студыі, якія працуюць з дзецьмі, якім пятнаццаць, семнаццаць гадоў? Талент трэба "весці" з прыступкі на прыступку па лесвіцы творчага росту. Недзе ў пятнаццаць гадоў адбываецца першая "ломка" таленту. Вось мы захапляліся дзіцячымі малюнкамі, хвалілі іх замілавана, але аўтар іх падрос — і з яго карцін знікае багацце колераў, шчырасць самавыяўлення, яны робяцца нібыта "сухімі"... І тут настаўнік павінен зразумець заканамернасць такога пераходу, павінен змагчы перавесці вучня на новую прыступку, каб не згубіць яго.

**— Вы маглі б сфармуляваць сваё крэда як настаўніка?**

— Мне здаецца, што найперш нельга ставіць сябе вышэй за сваіх калег. Бо без іх я ніколі не дасягнуў бы тых вынікаў, якія мы сёння маем у нашай гімназіі. І другое — трэба мець любоў да дзяцей. І павагу да іх.

**— Што б вы пажадалі чытачам "ЛіМа" ў сувязі з надыходам новага стагоддзя, тысячагоддзя?**

— Раней мы неяк больш радаваліся адно аднаму,чужым поспехам, больш сустракаліся... Сённяшняя інтэлігенцыя вельмі адасобленая. Хочацца пажадаць, каб у новым стагоддзі вярнуліся старыя традыцыі, і творчыя людзі пачалі паміж сабой супрацоўнічаць, сябраваць.

**— Дзякую за гутарку. З Новым Годам вас і вашых вучняў!**

**Гутарыла**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

# Тэма твораў — каханне

ПАЎЛУ САВОСЬКУ — 60



**Жыццё Паўла Савоські багатае на падзеі. Нарадзіўся ў вёсцы Зарудзічы Смаргонскага раёна. Скончыў Друйскае тэхнічнае вучылішча. Служыў у войску, працаваў экскаватаршчыкам, грузчыкам на лесанарыхтоўках у Сібіры. Скончыў Ленінградскі горны інстытут, і зноў паклікалі далёкія і блізкія дарогі: працаваў на Чукотцы, у Латвіі, на Паўднёвым Урале, а вярнуўшыся на радзіму, спачатку быў старшым майстрам на віцебскім вытворчым аб'яднанні "Кераміка". З апавяданнямі выступаў у часопісах "Маладосць" і "Полымя", адзін з аўтараў калектыўнага зборніка "Краю мой — Нёман". У 1988 годзе ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" асобным зборнікам выйшла аповесць П. Савоські "Запіскі халасцяка", у якой, як і другой "Фіктыўны шлюб", пісьменнік даследуе душу адзінокіх людзей, прымушае чытача задумацца над каханнем сапраўдным і ўяўным.**

**Віншуем Паўла Піліпавіча з юбілеем! Зычым доўгіх год жыцця і новых творчых поспехаў!**

# Студэнты — народ цікаўны

**У Мінску ў меды[illegible]чскім інстытуце адбылася сустрэча пісьменніка і гісторыка Уладзіміра Арлова са студэнтамі.**

**Пісьменнік прачытаў аўтабіяграфічны верш, які з'явіўся як бы эпіграфам да размовы, а затым крыху расказаў пра сябе: пра сваё першае каханне, якое напаткала яго ямчэ ў першым класе, і пра цудадзейную медную манетку з "Пагоняю", і пра тое, як ён вучыўся ў БДУ на гістфаку, і пра захапленне гісторыяй свайго роднага горада Полацка.**

**Шмат пытанняў задалі студэнты Арлову: пра будучыню нашай дзяржавы, пра стан беларускай мовы і нацыянальнай культуры, пра крыж Еўфрасінні Полацкай, у пошуках якога У. Арлоў прымаў самы непасрэдны ўдзел.**

**Пісьменнік заўважыў, што на сённяшні дзень амаль дакладна вядома, што крыж знаходзіцца ў Расіі, куды вывозіліся каштоўнасці ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны.**

**У. Арлоў расказаў таксама, як выкладалася гісторыя ў той час, калі ён вучыўся. Я і ўявіць сабе не магла, што Еўфрасінню Полацкую, заступніцу Беларусі, вядомую асветніцу, называлі тады "царкоўнай цемрашалкай", што Мураўёў-вешальнік лічыўся амаль героем. А вось пра такую значную асобу, як Скарына, не маглі змаўчаць, але і яго зрабілі прадаўжальнікам справы І. Фёдарава, хоць і было дакладна вядома, што Скарына выдаў сваю "Біблію" на 49 гадоў раней за Фёдарава...**

**Ішла гаворка і пра тое, што захаванне роднай мовы залежыць ад нас усіх, і ў першую чаргу ад таго, як мы будзем выхоўваць сваіх дзяцей. Пісьменнік спадзяецца на тое, што ўрэшце адкрыецца на Беларусі Нацыянальны універсітэт.**

**Пад канец сустрэчы У. Арлоў прачытаў верш пра каханне і ўручыў прыз за самае арыгінальнае пытанне — сваю кнігу з аўтографам.**

**Хачу выказаць шчырую падзяку ўсім тым, хто садзейнічаў арганізацыі гэтай сустрэчы. Такія размовы вельмі неабходны нам, беларусам: яны абуджаюць пачуццё нацыянальнай годнасці. І, нарэшце, гэтыя сустрэчы даюць вельмі рэдкую ў наш час магчымасць чуць сваю родную мову, гаварыць на ёй, жыць ёю...**

**Алена ЧАПЛІНСКАЯ**

"ЛіМ"-ФОТА



*Як Мастак — Мастаку...*

Анатоль Анікейчык і Рыгор Барадулін. Ушачча, 1985 г.

*Фота Я. КОКТЫШA.*

ПАЭЗІЯ

Уладзімір МАРУК



# "Зайдзі ў наш храм..."

●

*Дзень як дзень.*
*Ды цямнець*
*Пачынаюць пpылескі.*
*Сонца будняга медзь*
*Сыдзе ў вечара фрэскі.*

*Парушынкі святла*
*На нябёсах асядуць.*
*Паглядзіць з-пад крыла*
*Птушка з роднага саду.*

*На сівы небасхіл*
*І зацеплены месяц...*
*Горкі ў цемрадзі пыл*
*Цені вечныя месяць.*

*І дарога да воч,*
*Як лязом, дакранецца —*
*Бы апошняя ноч*
*Для жыцця застаецца.*

●

*Гняло бяссонне.*
*Сны не сніліся.*
*Хоць ні які чароўны ўзвар.*
*Ноч у глухія шыбы білася.*
*Маўчаў,*
*як вісельнік, ліхтар.*

*А пух нашэптваў пад наўлечкаю,*
*Нібы крыўдлівай ночы дух...*
*І як асмелюся —*
*за рэчкаю*
*Агонь успыхнуў.*
*Ды патух,*

*Нібы паганец непахрышчаны,*
*Што пасміхаецца здалёк*
*На першавыязныя ісціны,*
*Што саматужна спеліць клёк.*

*Стаяць яны,*
*як дрэвы голыя,*
*Як схімніцы перад грахом,*
*Нясмелыя,*
*яшчэ бясполыя, —*
*Перад патухлым тым агнём.*

*Яны не просяць і не просяцца,*
*Яны не маюць столькі слоў,*
*Што за любоўю іскрай носяцца,*
*Пяюць пра вернасць і любоў.*

*Яшчэ іх*
*доля лебядзіная*
*Не перастрэла, як знаццё,*
*Што асвятляе ўсё*
*адзінае*
*Святло —*
*пад назваю Жыццё.*

## Вяргіні

*Над садам лятаюць вяргіні,*
*Выводзяць пад небам кругі.*
*Няўжо нараджаюць багіні?*
*Няўжо паміраюць багі?*

*Хоць цемру на вочы навесце, —*
*Я буду дзівіцца да слёз,*
*Якое па ліку прышэсце*
*Ўзняло іх да самых нябёс.*

*Не знойдуць і там яны —*
*раю.*
*Ды выкрые іхні імпэт,*
*Як догмы ў душы адміраюць*
*І крэўны вяртаецца свет.*

●

*Праменьчык зорны цэліць*
*проста ў скронь.*
*Усе, што я цябе чакаю, ночы*
*Ляціць сняжынка страхам на далонь,*
*Ды ўжо твае вясною пахнуць вочы.*

*Ужо зялёны колер пасвятлеў*
*У елкі, што з-пад снегу выглядае,*
*І верабей пахаджвае, як леў,*
*Як быццам свет яму і спагадае.*

*А свет глядзіць услед тваім вачам,*
*Услед табе, прытомленай зімою,*
*І нашай долі найпрасветлы храм*
*Зноў паўстае перад табой і мною.*

*Зайдзі ў наш храм, каханая, зайдзі,*
*Няма там злыдня, як няма і звера,*
*І строгага нямашака суддзі,*
*Там толькі наша ў нашы душы вера.*

*Зайдзі ў свой храм. Я буду там адзін,*
*З каленяў падымуся і прывечу,*
*Як самы божы, самы верны сын,*
*Які кахае, ды які не вечны.*

●

*Ты ў мораку, а свеціш пазалотай,*
*Ты ў цемры, а здаешся незямной,*
*Найсамаю найдарагою цнотай,*
*Найпекнаю каханкай — як са мной.*

*Захочаш адцурацца — не паспееш,*
*Завабіш у сіло — ды не мяне?*
*Штодня ты не старэеш — маладзееш,*
*Нібы адбітак ценю на сцяне.*

*І ўсё ж не залатое з залатога,*
*А цёмнае вяртаецца з начы.*
*З высокага пакоцішся парога,*
*Каб з нізкага не ўпасці памагчы.*

*І ўстаць у пракаветнай пазалоце,*
*І вырасці да незямных вышынь,*
*Каб віснуць між ануч тваіх на плоце,*
*Што засталіся ад эпохі Мінь.*

●

*Слодычы слоў яваю нельга пярэчыць,*
*Вымеце радасць вецер з майго языка.*
*Ты не жыла,*
*калі золатам ззялі ўсе рэчы,*
*Ты аджыла, як у небе памерла рака.*

*Водмелі цела твайго не мялеюць ніколі,*
*Тоні глыбокія сэрца тваё сцерагуць,*
*Ты не была яшчэ ў гэтакай*
*збедненай ролі,*
*Дзе спачуваюць,*
*а жыць да канца не даюць.*

●

*Ты — дзіўная, ты — вечная,*
*ты — скруха,*
*Ты — годная... І ўсё, што ні кажы,*
*І з горла майго, вока майго, вуха*
*Асядзе пазалотай на крыжы.*

*Ты молішся. А я цябе чакаю*
*У пачакальні, дзе памылі крыж,*
*Я бруд цалую, а душу караю,*
*А ты, нібы абраз, яшчэ маўчыш.*

●

*Калі ты снішся не мне,*
*А ветру ці злому духу, —*
*Месяц смяецца ў акне*
*І выкрасае скруху.*

*Калі ты смяешся там,*
*Дзе ўсе нада мной смяюцца, —*
*Зайду ў свой забыты храм:*
*Хай слёзы са свечак льюцца.*

*Калі ты плачаш па тым,*
*У чым вінавата Неба, —*
*Дык гэта — у вочы дым...*
*І плакаць па мне не трэба.*

*Калі ж ты маўчыш, бы страх,*
*Які сам сябе баіцца,*
*Я буду, як дзікі птах,*
*У сны да цябе прасіцца.*

●

*Зімовы лес, як летнія замовы,*
*Не можа заступіцца за мяне,*
*Як за няпраўду вера Іеговы,*
*Як непрыснёны лёс за той, што ў сне.*

*Прыцiхлы снег маю душу спатоліць*
*Нячутным спевам птушкі на кусце.*
*Зімовы цень не вырасце ніколі.*
*Калі ён твой — то і зімой расце.*

Георгій МАРЧУК



# Голас і слова

## З КНІГІ АФАРЫЗМАЎ

Для мноства людзей навука матэматыкі пачалася і скончылася простым падсумоўваннем грошай пры разліках.

●

Нянавісць асляпляе відушчага і дае зрок невідушчаму. З якой студні чэрпаюць сілы нянавісць і зайздрасць?

●

Філасофія — гэта кровазварот думак чалавека.

●

Калі ў семдзесят гадоў няма ўнукаў, дык і не будзе, калі ў шэсцьдзесят слава не знайшла, дык і не знойдзе, калі ў пяцьдзесят няма грошай, дык і не будзе, калі ў сорак няма кахання, дык і не будзе, калі ў трыццаць няма прафесіі, дык і не будзе, а ўсё таму, што ў дваццаць не было розуму.

●

Альфа і амега сяброўства — спагадлівасць і надзейнасць.

●

Самы магутны метад забыцця — змена летазлічэння.

●

Смак да жыцця падсілкоўвае перамога.

●

Хто ганарлівы, той і зайздросны.

●

Слава аднаго замінае славе другога, загана ж аднаго не замінае загане другога.

●

Смерці нельга ні шкадаваць, ні зайздросціць. Ва ўсіх набытыя білеты.

●

Каханне — гэта цяжкая праца да натхнення і пасля натхнення.

●

І багацця на ўсіх хапае, і галечы на ўсіх хапае, толькі дабро ў дэфіцыце.

●

Хто намагаецца ўсяму надаць сэнс, той мудрэц.

●

Сумленны чалавек часцяком адчувае грэх з-за таго, што сусед побач жыве ў галечы.

●

Заганна нажытае багацце заганна і выкарыстоўваецца.

●

Час узбуйняе мастака. Чым далей ён ад нас, тым значнейшымі здаюцца нам яго творы.

●

Быць доктарам філасофскіх навук і філасафам часцяком вельмі розныя рэчы.

●

Адвечнае пытанне крытыка: сказаць праўду аўтару пра яго твор — пакрыўдзіць аўтара, сказаць няпраўду — пакрыўдзіць сябе.

●

Першыя пытанні, якія чалавек паставіў сам сабе: давядзецца памерці, як бы не памерці, а дзеля чаго жыць, перад тым як памерці.

●

Мы падпарадкоўваемся сусветным законам... і ўсе супакойваюцца, хоць ніхто не ведае ніводнага сусветнага закона.

●

Калі нават на чале войска на чужую тэрыторыю ўвойдзе разумны і мудры генерал, ён усё роўна застанецца ў гісторыі як дзікі акупант.

●

Авангардызм — гэта рэалізм з сардэчнай недастатковасцю.

●

Адвечная праблема жанчын — у адносінах да большасці я апранута добра, у адносінах да меншасці — кепска.

●

Розніца паміж рускім, што жыве ў Расіі, і нярускім, што жыве ў Расіі. Рускі пракручвае свае праблемы вакол Расіі, нярускі пракручвае Расію вакол сваіх праблем.

●

Прыкметы нашых змен — гэта калі камуністы не могуць, а капіталісты не хочуць.

●

Колькі ні жывеш, а ўсё мала.

●

Меншасць замольвае грахі, а большасць залівае.

●

Усю сусветную гісторыю можна вытлумачыць і так — гэта пошукі раба розумам, грашамі і зброяй.

●

Часцей за ўсё людзі не сэнс жыцця шукаюць, а самі таго не падазраючы, шукаюць прычыну смерці.

●

Дэмакратыя пачынаецца, калі ад слоў пераходзяць да справы, а заканчваецца, калі ад спраў пераходзяць да слоў.

●

У генія ёсць адна асаблівая здольнасць знаходзіць творчасць ва ўсім.

●

Сапраўды пісьменнік той, на творах якога можна навучыцца любові да людзей.

●

Адвечная дылема для чалавека — калі не скарышся Богу, не супрацьстаіш д'яблу.

●

Спакуса існуе ў самім чалавеку. Але віну за гэта ён ахвотна перакладае на іншых без падказкі д'ябла.

●

Патрыятызм — гэта ўпрыгожванне радзімы талентамі і справамі.

●

Рэлігія — грандыёзны, надзейны метад заспакаення трагічных сумненняў чалавека аб бессэнсоўнасці жыцця.

●

Калі грамадства ператварае волю ў разбэшчанасць, яна сыходзіць з грамадства.

●

Жыць адно толькі будучыняй немагчыма. Гэта амаль што даказалі камуністы.

●

Ніколі не крытыкуй чалавека, а толькі падвяргай сумніву яго погляды.

●

Крытыка — нахлебніца пры талентах.

●

Кожнага чалавека на зямлі трэба хваліць, але пры гэтым не перахвальваць.

●

Пытаем, чым супакоіць прыстойнага чалавека, прыкладнага сем'яніна, незласлівага суседа, на галаву якога раз за разам сыплюцца нягоды і гора? За што, маўляў? Адказвай: за грахі продкаў.

●

Новыя словы прыходзяць самі. Чытаю старую энцыклапедыю. Знаёмыя «рэванш», «рэвалюцыя», «рэвізіянізм». Слова «рэкет» няма. Неабходна дадаць. А як жа! Паспрабуй не дадай.

●

Народ не дурны, але часцяком абдураны.

●

Калі ваша праца не атрымлівае адпаведнай ацэнкі, на тое ёсць дзве прычыны: ці то зайздрасць, ці то неразуменне.

●

Улада грошай пачынаецца з фанабэрыі і заканчваецца забойствам.

●

Чалавек спакайнейшы і шчаслівейшы, калі ён кіруецца характарыстыкамі жыцця, а не яго фактамі.

●

Сёння праўда выгадная аднаму, заўтра другому. Сумна ад таго, што няма дня, калі б яна была выгадная ім абодвум.

●

«Я тое, што я думаю». «Я тое, што я маю». Нехта трэці ганебна грэе рукі ад сутыкнення двух першых.

●

Здаровы да непрыстойнасці.

●

Гэта не бензін падняўся ў цане, гэты мы ўпалі ў жабрацтва.

●

Калі ў чалавека няма любові, самому чалавеку цяжка і з ім цяжка.

●

Апошняя мара чалавека: патрапіць бы ў Рай, а не ў Пекла.

●

Чалавеку ўсё ў радасць, а каб ён асэнсаваў цану гэтай радасці, часам засылаецца і гора.

●

Пытаеш, што такое дыктатура? Гэта калі палова нічога не ведае, другая палова ведае, але маўчыць. Тых жа, хто падштурхоўвае першых і другіх да ісціны і праўды чакае альбо эміграцыя, альбо турма, альбо куля.

●

Каханне — гэта няздатнасць усведамляць небяспеку.

●

Заможныя дываноў не выбіваюць.

●

Не ўсё дадзена чалавеку ведаць, але вельмі шмат памятаць.

●

Крытыкаваць нявартага павагі — свядома прыдбаць сабе ворага.

●

Калі твае пакуты ператвараюцца ў пакуты для іншых — час паміраць.

●

Калі двое аб'ядноўваюцца, яны звычайна аб'ядноўваюцца супраць кагосьці трэцяга.

●

Словы «так» і «не» належаць Богу. Чалавек мусіць вымаўляць іх з асаблівай асцярогай.

# САКРЭТ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8-9)*

І за міг гэтага таннага «ўзвышэння», гэтага фальшывага самалюбавання ён павінен будзе прадаць свой сакрэт? Развітацца з ім? Зняславіць свайго, які аднаму яму, Паўлу, належыць, плагіятара? Як усё гэта смешна, як несур'ёзна... Артыкул! — думаў Павал, ідучы да аўтастанцыі. — Які артыкул, калі тут трэба маўчаць, як рот зашыўшы! І справа нават не ў тым, што ён нейкай прыпыленай віхурай уварвецца ў чужое жыццё і проста так, ад няма чаго рабіць, пабурыць гэтае маленькае, крохкае, беднае шчасце, і не ў высакароднасці ягонай, і не ў практычна-эгаістычных пастулатах тыпу: «пакрый чужы грэх, табе Бог два даруе», і нават не ў гэтай маленькай, у гуманітарных абносках жанчынцы, якая вазіла на «Апанскую» перадачы, і не ў яе шалапутным сыне, якога звяла «кампанія», — механізм ніколі не закруціцца, выкрывальніцкі артыкул ніколі не павінен з'явіцца па той простай прычыне, што ўся гісторыя не вартая тухлага яйка. Тут не знаходзіцца складу злачынства. Віна плагіятара, як і рэдактараў, што за ім не дагледзелі, была мінімальная, калі ўвогуле хоць якая была. Ну, хто з нашага камп"ютэрнага пакалення сядзе зараз спецыяльна чытаць таго ж Паустоўскага? Ці Прышвіна, не кажучы пра Авечкіна? А так, можа, дзякуючы плагіяту, хоць урыўкамі з газеты, хоць неяк падспудна, хоць у перакладзе на беларускую мову раптам нешта разумнае-вечнае возьме ды і пасеецца ў галовах?

Нібы цвярозы пасля п'янкі, Павал цяпер не пазнаваў сябе ранейшага. Ён толькі дзівіўся, як падобная лухта — выступіць з нейкім артыкулам — магла жыць у ім столькі часу? Няўжо яна ўсур'ёз ім дапускалася? І смешна было, і крыху сорамна. Ну, а мы ўсе, літаратары, «творчыя людзі», — пацягнула яго на філасофію, — што, заўсёды арыгінальныя? У нас усё новае, нічога і нікога мы не паўтараем?

Вось адкуль гэтая ілюзія пазнавальнасці. Вось чаму ўсё вакол здаецца такім знаёмым, нібы быў ужо некалі тут, і неаднойчы, усё тут бачыў і ведаў раней: і гэтае мястэчка, і гастраном, і прыбіральню, і пустую залу аўтастанцыі, куды ён якраз увайшоў і апусціўся, як у ночвы, у адно з тых нязграбных, мулкіх, драўляных крэслаў, якія, баючыся каб іх не ўкралі, замацоўваюць па пяць штук жалезным прэнтам. Каса яшчэ не працавала. У прахалоднай цішыні было чуваць толькі, як звіняць мухі і б'юцца аб высокія мутныя шыбіны. І гэта таксама паўтаралася — як і нядаўні пах кропу з агарода, як і хатка, у якой ён не быў, але ведаў, што будзе там «у нос біць» духам выпаленай печы, што будзе там стол, пакрыты цыратай-«кляёнкай» у сінія і белыя квадраты, са слядамі ад патэльні; як і капуста «з грыбамі і з мясам», якую ён не еў, але ведаў, што, перш чым адправіць у рот лыжку, трэба «падзьмухаць» на яе, сабраўшы вусны ў «курыную гузку», а калі патрапіцца грыб, падсаліць яго ў лыжцы і «ўцягнуць» у сябе «з прыцмокам»... Усё на ўсё было падобна, усё незлічонае мноства разоў паўторанае — і ў жыцці, і ў літаратуры як люстэрку жыцця. Ды па вялікім рахунку, — тут адчынілася акенца касы і Павал паспяшаўся туды, — па вялікім рахунку плагіят закладзены ў самой прыродзе, у гэтай цыклічнасці яе, у гэтым вечным кручэнні кола! Урэшце, лета падобнае на ўсе леты, якія былі раней, і восень будзе падобная на ўсе ранейшыя восені: надвор'ем, тэмператураю, барвамі, пахамі, настроем... І калі ўжо нават тут, у прыродзе, усё капіруецца, усё «здзіраецца», усё плагіят — калі на тое пайшло, дык што казаць пра жывое, суб'ектыўнае, чалавечае?..

Ён паглядзеў на білет. Месца дасталося наперадзе і каля акна, а нумар білета быў 7355. Добры знак!

Ужо ў аўтобусе ён падумаў, што жыць ягонаму сакрэту нядоўга. Канечне ж, небараку-плагіятара, да якога Павал, аказваецца, прывык, як да кубка кавы кожнае раніцы, як да нумара тралейбуса, якім дабіраецца на працу і назад, хутка выкрыюць. Ну, што ж! І быць таму. Як мінімум, застанецца ў душы адчуванне, што ён мог зрабіць хоць і невялічкую, але гадасць, і не зрабіў. Ужо добра. А пакуль хай усё будзе, як ёсць. Пакуль што:

— Ц-с-с, маўчаць, — прамармытаў ён уголас, і, толькі цяпер схамянуўся, заўважыў, што ён не адзін, што ў крэсле побач з ім суседка. Здзіўлена на яго пазірае. А нішто сабе, харошанькая...

Ён страсянуў галавою, каб хоць такім, фізічным, дзеяннем пазбавіцца ад ужо вырашаных, ужо не цікавых яму думак.

Самы час быў знаёміцца.

**ЧАСАПІС**

## *Японія далёкая і блізкая*

**Напрыканцы стагоддзя і тысячагоддзя зноў пацвердзілася старая ісціна, што культура не ведае межаў. На гэты раз Беларусь знаёмілася з культурай далёкай і экзатычнай для нас краіны — Японіі.**

**Адбыўся тыдзень японскай культуры і ў Навучальным комплексе гімназія-каледж мастацтваў г. Мінска. Праграма тыдня, з 4 па 9 снежня, была надзвычай насычанай і цікавай. У галерэі Дзіцячай творчасці, якая дзейнічае пры навучальным комплексе, адкрылася выстава "Японія". Навучэнцы гімназіі-каледжа змаглі паглядзець японскія мультфільмы і відэафільмы. Прадстаўнік фонду Чыро ў Рэспубліцы Беларусь, кіраўнік інфацэнтра японскай культуры спадарыня М. Тацумі расказала пра японскае мастацтва, традыцыйны японскі жывапіс і таямніцы мініяцюр-статуэтак нэцке. Сярод навучэнцаў была праведзеная віктарына-конкурс рэфератаў "Сучасная Японія". На працягу ўсяго тыдня адбываліся адкрытыя заняткі Студыі арыгамі, Студыі керамікі і Паэтычнага клуба. Вялікую цікавасць выклікалі выстава кімано, свята японскіх баявых мастацтваў, якое адбылося дзякуючы майстэрству вучняў Мінскай школы Ват-джытсу "Бонг Дэм Лонг". Гэта назва перакладаецца з японскай як "Цень начнога дракона".**

**Конкурс дзіцячага малюнка "Як я ўяўляю Японію", праведзены сярод вучняў гімназіі-каледжа, нарадзіў шмат цікавых, яркіх малюнкаў. Дарэчы, менавіта навучэнцы гімназіі-каледжа — Аляксандр Даманаў і Лідзія Леснікава былі лаўрэатамі Міжнароднага конкурсу жывапісу ў Японіі 2000 года. На адным з мерапрыемстваў тыдня японскай культуры яны падзяліліся сваімі ўражаннямі ад наведання Краіны Узыходзячага Сонца.**

**Удзельнікі Паэтычнага клуба паспрабавалі сябе ў стварэнні традыцыйных японскіх форм вершаскладання — хоку і танка. Пра тое, што ўяўляюць з сябе гэтыя формы, які філасофскі сэнс хаваецца ў іх і ці ёсць традыцыя беларускіх хоку і танка, на занятках паэтычнага клуба расказвалі дырэктар навучальнага комплексу Зоя Паўлава, паэты Уладзімір Арлоў і Людміла Рублеўская. Вялікую цікавасць выклікаў і конкурс "Паштоўка для японскіх сяброў".**

**У рамках тыдня адбылася Міжнародная канферэнцыя "Сучасныя метады прадстаўлення інфармацыі ў навучальным працэсе", арганізатарамі якой з'яўляліся японская кампанія "RISO Кадакі Со" і японская фірма "MITA", а таксама амерыканская кампанія "3М". У канферэнцыі бралі ўдзел Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры РБ, Мінскі гарвыканкам, Цэнтр Францішка Скарыны, рэктары ВНУ, дырэктары каледжаў, школ і гімназій.**

**Напрыканцы ў гімназіі-каледжы выйшаў нумар газеты "Дні японскай культуры", выдадзены на абсталяванні фірмы "RISO". Паліграфічны комплекс быў уручаны як падарунак установе, якая выхоўвае юных мастакоў.**

**Н. К.**

## *Увага!*



**У красавіку 2001 года ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адчыніцца выстава "Свет вачыма беларускіх дзяцей XX стагоддзя". На выставе будуць прадстаўлены творы дзяцей XX стагоддзя ад першых яго гадоў і да апошніх.**

**Музей і Аргкамітэт выставы звяртаюцца да ўсіх, у каго захаваліся свае дзіцячыя малюнкі, малюнкі бацькоў, дзядоў, прадзедаў, родных і знаёмых, калі яны былі дзецьмі ці падлеткамі (да 17 гадоў уключна). Дасылайце ці прыносьце гэтыя творы ў Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі. Захаванасць вашых малюнкаў гарантуем.**

**Да твораў просім прыкласці кароткую біяграфію і фотаздымак аўтара (пажадана часу стварэння малюнкаў).**

**Творы прыносьце ці дасылайце да 1 лютага 2001 года, у цвёрдым канверце, не складваючы, на адрас: 220050, г. Мінск, вул. К. Маркса,12. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.**

**Тэлефоны для даведак: 206-33-17,227-06-33,227-30-06.**

***Што гаворыць чытачам прозвішча Навіцкі Яўхім?***

***Нічога.***

***А Карскі Яўхім?***

***Між тым, гэта адна і тая ж асоба, сын вясковага настаўніка Хведара Навіцкага і Марылі Каршчанкі, што юнаком узяў сабе дзявочае прозвішча мамы. Тым самым чарговы раз сцвердзіў старажытную мудрасць: Non est nomen sine gloria! Няма імя без славы!***

***Ні Павел Шафарык у славакаў і чэхаў, ні Вук Караджыч у сербаў, ні Капітар і Міклашыч у славенцаў, ні Стэфан Младэнаў у балгар, ні Аляксандр Шахматаў у рускіх не могуць перакрыць тое, што прарабіў сам-адзін — адзінаю параю рук — на полі ўласнага нарадазнаўства гэты шыракаплечы, магутны волат.***

первом знакомстве с записанными произведениями белорусского творчества и языка", аднак прапанаваную для друку форму публікацыя атрымала "толькі ў апошнія паўтары гады". Прадмова паўставала ў Вільні, куды, можна сказаць, па накіраванню трапіў Яўхім, паспяхова закончыўшы Нежынскі інстытут у 1885 годзе. Інстытуцкае начальства прапаноўвала здольнаму выпускніку застацца ў Нежыне, адразу заняцца напісаннем дысертацыі. Такой раскошы Яўхім дазволіць сабе не мог. Паехаў у Вільню, каб матэ-

Язэп ЯНУШКЕВІЧ

# Няма імя без славы

ДА 140-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Яўхіма КАРСКАГА

Будучы філолаг-славіст, заснавальнік беларускага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнограф, палеограф, бібліёграф, фальклярыст, акадэмік расійскай імператарскай (беларускай тады і ў сне прарочым нікому не снілася) Акадэміі навук Яўхім Навіцкі-Карскі нарадзіўся 20 снежня 1860 г. у вёсцы Ла́ша Гродзенскага павета Гродзенскай губерні (цяпер Гарадзенскі раён). Або паводле новага стылю — 1 студзеня 1861 года.

Аднак зададзімся пытаннем: што паслужыла вырашальным штуршком для станаўлення Карскага-вучонага? Хто абудзіў да стваральнай працы непараўнальнага філолага-славіста?

Адказ надзвычай просты: найбольшы ўплыў на станаўленне Карскага-нарадазнаўца зрабілі матчыны сваякі, што падсвядома прызнаў і ён сам, добраахвотна выбраўшы ў маладыя гады маміна, а не бацькава прозвішча, *пад якім прыйшоў на свет.*

Дзе-жылі-вандравалі Карскія перш чым атабарыліся і праславілі беларускую вёсачку Лашу — пакуль невядома. Згодна мясцовым "гістарычным аналам" (а такімі з пэўнасцю можна лічыць метрычныя кнігі-запісы пра нараджэнне-хрышчэнне мясцовага люду), прозвішча *Карскі* ўпершыню з'явілася ў Лашанскай парафіі ў 1805 г., калі Вінцэнт Карскі наняўся "служыць дзячком у старой царкве са званіцай на чатырох драўляных слупах". У лашанскай старане Вінцэнт успрымаўся прыхаднем надоўга, і з божай ласкі запачаткаваў лашанскі род Карскіх. Абжыўся. Ведама: дохтар ды дзяк і ў лесе з голаду не памруць. Займеў Вінцэсь, як у казцы, трох сыноў: Ігната (1800 г. н.), Нупрэя (Ануфрыя, 1802 г. н.) ды Сцяпана (1805 г. н.). Серадольшы Нупрэй пайшоў па бацькавай сцяжыне, пераняўшы месца лашанскага дзячка. Узгадаваў Нупрэй сваю парку дзетак — Яна і дачку Марылю. Марыля Каршчанка выйшла за вясковага настаўніка Хведара Навіцкага.

Ад часу скасавання уніяцтва на Беларусі (1839 г.) выкладанне ў парафіяльных школках вялося па-расейску, з адпаведным удзёўбваннем у галаву ідэалогіі трыадзінства: самадзяржаўе, праваслаўе, народнасць. Што да апошняй "філасофска-патрыятычнай катэгорыі", тутэйшы люд падыходзіў да яе не проста па-мужыцку разважна, хітравата, але і з меркай гістарычнай. Калі святар загадваў ла́шанцам цягнуць «Госпадзі, памілуй», некаторыя сяляне адказвалі: «*Мы не маскалі, каб спяваць «Госпадзі, памілуй*!». І дзіўнага тут нічога няма: на Гарадзеншчыне да 1855 года амаль уся царкоўная служба правілася на уніяцкі лад. У суседняй Менскай губерні, куды неўзабаве пераедзе вясковы настаўнік Хведар Навіцкі з сям'ёй, паводле афіцыйных звестак на 1860 год насельніцтва размяркоўвалася наступным чынам: 310.373 уніяты, 262.024 праваслаўных, 199.597 каталікі. Выходзіць, да самага нараджэння Яўхімкі тутэйшы люд, прымусова "вернуты" ва ўлонне праваслаўнай царквы ў 1839 г. (па першым часе сяляне амаль не наведваліся ў "перавернутыя" храмы) заставаўся пераважна уніяцкім, дзе пад кожнай страхою жыў гаспадар-апостал, прыхільнік "веры дзядоў", звычаем продкаў штодня ў поце чала здабываючы нішчымны хлеб на няхітры абед.

З пяці тысяч душ Лашанскай парафіі хіба пяць чалавек (тысячная доля!) умела адгаварыць пацеры па-расейску. Лашанцы ў тыя часы не называлі сябе ні рускімі, ні беларусамі, а ў большасці *тутэйшымі* або «*ліцвінамі*». Але калі хто казаў: «*Ліцвін — божы сын*», то атрымліваў адказ: «*Ты сам ліцвін*». А калі дражніўся «*Ліцвін — чортаў сын*», то чуў у адказ: «*Хоць чортаў, але не твой*». У большасці ж называлі сябе: "*Мы тутэйшыя. Наша старана ні руска, ні польска, а забраны край*". А калі хто запытаецца: "хто ж вас забраў?", то адказвалі: "*Нас Кацярына забрала*".

Прыведзеныя некаторыя лічбы і каларытныя малюнкі "з жыцця" Лашы захаваліся ў этнаграфічных запісах... дзядзькі будучага вучонага, Яна Карскага, — роднага брата Марылі. Прыродны этнограф, фальклярыст (нашыя энцыклапедычныя даведнікі пакуль што не прысвяцілі яму асобнай персаналіі-артыкула), у біёграфаў акадэміка Карскі заслугоўвае першаступеннай увагі. Бо ён, бясспрэчна, постаць, асоба, лёсавызначальная ў жыццяпісе кар'еры славістычнай навукі. Менавіта Ян Карскі (нарадзіўся ў 1837 г.) зрабіў каласальны, адмысловы ўплыў на станаўленне характару і светапогляду пляменніка.

Сам Яўхім Навіцкі пачатковую адукацыю атрымаў на Наваградчыне ў Ятранскім народным вучылішчы. Пасля заканчэння ў 1874 годзе згаданай вясковай школы бацька не меў сродкаў накіраваць сына ў гімназію, таму аддаў падлетка ў Мінскую духоўную вучэльню, а пазней у семінарыю.

Яўхіму належала выжыць не толькі целам, але і духам, паколькі бурса калечыла сваіх гадаванцаў і маральна. Яўхімка Навіцкі годна вытрымліваў жыццёвыя іспыты. Паводле *сямейнай хронікі-падання*, каб дапамагчы сваім бацькам, выкройваў кожную вольную ад семінарскіх заняткаў часіну на прыватнае рэпетытарства. Пэўную рату заашчаджаных грошай адсылаў бацьку. «Вясковы настаўнік меў вельмі малы даход. Сям'я была вялікая, а паколькі хацелася ўсіх падняць на ногі, то старэйшаму даводзілася дапамагаць. У нас у сям'і расказвалі, што, калі дзядуля вучыўся, то ён даваў прыватныя ўрокі, быў рэпетытарам, і яму ўдалося назбіраць гэтулькі грошай, што ён дапамог свайму бацьку купіць неабходнага ў гаспадарцы каня...»[1].

Конь у гаспадарцы — таксама бацька. Без яго і сваё поле — чужое. Хоць ты выракайся. Зрэшты, у летапісных зводах почасту назіраецца анахранізм. Не выключана, прысутнічае ён і ў сямейным паданні: выпадак "з канём" мог адбыцца ўжо падчас вучобы Яўхіма Навіцкага ў Нежынскім інстытуце. Але ўчынак сведчыць пра адно: і пакінуўшы бацькоўскую хату, Яўхім заставаўся верны роду, дзе немалая радзіна вясковага настаўніка не раскашавала: у штодзённым побыце мала чым рознілася ад мясцовых сялян, хіба вялізны прагай да навукі.

У 1881 годзе пры паступленні ў Нежынскі гісторыка-філалагічны інстытут Яўхім Навіцкі падае ў дырэкцыю прашэнне з просьбай памяняць бацькоўскае прозвішча на дзявочае прозвішча мамы. Такое звычайна практыкавалася пры змене духоўнай кар'еры на цывільную. Прыслухоўваючыся покліч нябёс і падуладны таемнаму бегу адвечных зор, што вызначаюць лёс кожнага народжанага, Навіцкі-Карскі выбіраў свой шлях.

Абмеркаванне беларускага пытання ў навуковым асяродку для Карскага пачалося з яго першай буйной працы "*Обзор звуков и форм белорусской речи*", выдадзенай у Маскве ва універсітэцкай друкарні Каткова ў 1885 годзе (на вокладцы пазначаны 1886 г.). У прадмове нядаўні гадаванец прызнаецца: "*Агляд*" задумваўся аўтарам яшчэ "гады чатыры таму", "пры



рыяльна акрыяць, стаць на ногі, дапамагчы сям'і пазбыцца адвечнай нястачы. Дзякуючы энэргіі, працавітасці, Яўхіму гэта ўдалося.

Працавітасці яму было не займаць. Трывушчы, нібы вербалозы пры гасцінцах, што год ад году пераносяць летні сквар і зімовую стынь, Карскі, надзелены ад прыроды здароўем і набытым за гады жыцця цярпеннем, пасляваў не толькі па казённай частцы адрабіць аклад (пасля заканчэння інстытута на працягу 8 гадоў выкладаў рускую і стараславянскую мовы, а таксама рускую літаратуру ў 2-й Віленскай гімназіі — парэштках колішняга слаўнага забароненага Віленскага універсітэта), але знаходзіў *час для самастойных архіўных пошукаў*, паглыбляў веды самаадукацыяй, праводзячы аднкачасова з педагагічнай працай шырокія даследаванні ў багатым рукапісным аддзяленні Віленскай бібліятэкі. Там вывучалася мова старажытных беларускіх летапісаў, хронік, перакладных і арыгінальных мастацкіх тэкстаў — несмяротных помнікаў, што і праз тысячагоддзі будуць сведчыць пра нас.

Што вылучае Карскага ўжо першай ладнай публікацыяй — грунтоўнасць, кваліфікаванасць, паважнасць, нейкая не па гадах уласцівая, а таму яшчэ больш прывабная, сталасць назіранняў. Напрыканцы "*Агляду*", на 158-й старонцы, аўтар прыходзіць да кароткай, але важкай высновы: "беларуская гаворка павінна лічыцца самастойнай: сукупнасць яе характэрных рыс не паўтараецца ні ў адной славянскай мове...". Гэта прагучала тады, калі не толькі ў афіцыёзных колах палітыканаў, але нават і ў навуковых асяродках за беларускай мовай не прызнавалася права самастойнасці сярод іншых славянскіх моў.

Разам з іншым даследаваннем «*К истории звуков и форм белорусской речи*» (Варшава, 1893), названыя працы з'явіліся дзвюма часткамі магістарскай дысертацыі, абароненай Карскім у Кіеўскім універсітэце 23 кастрычніка 1893 г.

Так паўстала першая ў гісторыі дысертацыя па беларускай мове.

У 1893 г. па асабістай просьбе Я.Карскі пераводам афармляецца на працу ў Варшаўскі універсітэт, дзе з 1 лютага прызначаецца "лектором русского языка". Прынята лічыць, што вучоны апынуўся ў Варшаве, бо "служба ў Варшаўскім універсітэце вабіла Я.Карскага творчымі магчымасцямі: тут творча працаваў моцны калектыў славістаў...". Яно так, але "лектар расійскай мовы" падаўся ў горад над Віслай не адно дзеля высакародных памкненняў паслужыць навуцы. Падштурхоўвала само жыццё. У 1893 г. сям'я акадэміка пабалела на аднаго сына — Сяргея

*Цалкам нарыс-эсэ пра Яўхіма Карскага "Калумб Беларусі" друкуе часопіс "Полымя" (2001, № 1).*

(старэйшаму, Яўгену, споўнілася 5 гадкоў). Па-ранейшаму Яўхіму належала дбаць пра матэрыяльны дабрабыт. Гэтым разам уласных сямейнікаў. А служба ў "привислинском крае" (тым больш у адным з прэстыжных расійскіх імператарскіх універсітэтаў) істотна здымала фінансавыя праблемы, дадаючы да белай пшанічнай лусты важкі кус масла. На мове царскіх законаў расійскай імперыі гэта гучала так: за «прослужение первого пятилетия в губерниях Царства Польского» расейскаму чыноўніку належала "прибавочное жалованье в размере 25% от штатного оклада, а за второе пятилетие — в размере 50%".

Каб даследаваць старажытныя помнікі, належыць выдатна авалодаць палеаграфіяй — спецыяльнай гісторыка-філалагічнай дысцыплінай, якая вывучае вонкавыя прыкметы старажытных рукапісных помнікаў для вызначэння часу і месца іх напісання, а таксама для правільнага чытання тэкстаў, выяўлення сапраўднасці рукапісаў, падробак.

На пачатку 1902 года «*Могилевские губернские ведомости*» (№№ 8, 9), а ў кастрычніку (у значна дапрацаваным варыянце) акадэмічныя «*Известия Отделения русского языка и словесности*» (ОРЯС. Т. VII, кн. 3) друкуюць артыкул «*К вопросу об этнографической карте белорусского племени*» (у снежні 1902 года неадменны сакратар Імператарскай акадэміі навук М.Дубровін блаславіць публікацыю чарговым асобным адбіткам; у біябібліяграфічным слоўніку "Беларускія пісьменнікі" пазначана чамусьці 1903 г.). "*Основой для определения границ Белорусской области у нас исключительно служит язык*" — праграмна задэклараваў вучоны першым сказам сваю канцэпцыю высвятлення межаў рассялення беларусаў. Цягніком, жыдоўскай фурманкай з балаголамі ці на сялянскім возе або пехотою Я.Карскі спазнаў усю Беларусь, сабраў унікальны матэрыял па жывых беларускіх гаворках, якраз па мясцінах іх бытавання. На кірмашах і фэстах, застольных бяседах, хрэсьбінах і вяселлях, у самотных доўгіх пераездах услухоўваўся вандроўнік у гаворку простых людзей, як кампазітар услухоўваецца ў спеўны тон, каб зафіксаваць песенны лад народных неўміручых песень. Нарыс заканчваўся пералікам 70 паветаў, дзе "*белорусскую речь знают*". Так упершыню быў навукова акрэслены арэал рассялення беларусаў паводле моўнай стыхіі.

Этнаграфічная карта ўпрыгожыла 1-ы том «Беларусаў» — «Введение в изучение языка и народной словесности», выдадзены ў Варшаве ў 1903 годзе (генерал-лейтэнант Святаполк-Мірскі даў дазвол на друк "н*оября 19 дня* 1903 года"); у наступным, 1904 годзе, з'явіўся асобны адбітак «Виленского временника»)[2].

Падзеяй у беларусазнаўстве з'явілася і бібліяграфія, што ўпрыгожыла першы том "Беларусаў". Пасля выхаду ў свет капітальнага выдання Еўдакім Раманаў 21 снежня 1903 года пісаў Яўхіму Карскаму: "Я ўвесь знаходжуся пад уплывам Вашай цудоўнай кніжкі, неабходнасць якой даўно ўсімі намі адчувалася. Колькі экзэмпляраў у Вас ёсць? Я хачу распаўсюдзіць іх па ўсіх народных вучылішчах пакуль што свайго ўчастка, а потым па ўсёй губерні. Яна па праву павінна быць настольнай кніжкай у кожнай пісьменнай беларускай сям'і: рэцэнзіі я пастараюся ў хуткім часе змясціць у некалькіх выданнях, каб абвясціць беларусаў пра яе выхад і пазнаёміць з яе зместам».

Беларуская стыхія напоўніцу загучала ў чарговых трох выпусках "*Беларусаў*", выдадзеных з кароткімі перапынкамі ў 1908, 1911 і 1912 гг.; яны і склалі другі том "*Язык белорусского племени*".

Паўтараючы-праходзячы шлях станаўлення беларускай мовы да яе першавытокаў, узнаўляючы ўласнабеларускія формы і шукаючы этымалагічную сувязь цяпер забытых малаўжывальных слоў, Карскі прыводзіць тысячы прыкладаў, рупліва адабраных ім у старадаўніх помніках пісьменнасці і ў працах сучаснікаў. У аблюбаваных узорах вучоны дае тлумачэнне (зазвычай у перакладзе на расейскую мову) тых рэдкіх слоў, якія ўжо ў мінулым стагоддзі лічыліся рарытэтамі. Што ўжо казаць пра наш час! Важкія нізкі прыкладаў яскрава сведчаць пра тонкі густ прыроджанага філолага (большасць узята з слоўніка Насовіча): *багатыр* (богач), *шамшур* (косноязычный), *мутор* (труд; хоць дакладней тут ужыць неспакой, *клопат*), *лапаны* (взятки), *канаплянка* (платок из пеньки), *лабзень* (с большим лбом), *ціхень* (слабый гром), *хвасцен* (хвастун), *под'ездзень бабскі* (льстец), *шугавеіна* (расточитель), *пярхун* (часто кашляющий), *лопацень* (болтун), *вырвас* (сорванец), *дырдас* (шалунмальчик)...

А колькі прыкладаў засталіся без тлумачэнняў! Падбіраючы іх, Карскі любіў шырока ўжыць народныя прыказкі, прымаўкі, выслоўі ("*Літвін як лін; жидова немелостивые; отбираем жито што на еме, а што на семе; воўк ня еўшы, што мужык пагарэўшы: што ўвідзя, тое трэба*). Аналізуючы ўтварэнне слоў з дапамогай суфіксаў, да прыкладу, звяртае ўвагу на вельмі рэдкія, тыпу *-ат, -ет, -ота, -ут, -тух, -тай, -ст, -енц* і інш.: *дзявяротка, гарэтнік* (горемыка), *жывоты* (*животы короткии дело долго- vita brevis ars longa est*), *благата* (застаецца забаўніца самай благаце), *малюта, Ясюта* (Ванюша); суфікс *-з* (*-зно, -аз*): *бабзно* (пагарджальнае — баба), *бабздыр* ("женский угодник"), *мянтуз, драбязак*; суфікс *-н (ан, -цан, -ін, -нн*): *мясёный, распусны, блазен, патомныя часы* (будущие времена), *недалужны* (слабосильный), *шалберны* (плутоватый), *зацішны, абыдзённы, безпрыцямны*(не наблюдательный), *пархуцік, свінтухайла.*

Разглядаючы розныя тыпы сказаў, пачынаючы ад простых, з адным назоўнікам (*Охохох! колиб то я мог, да не быв бы плох!; беда! сором! добро! Пожар!; трасца табе; хвароба табе! божжа наказання! а лиханько! а мамулька, о-ё-ёй! ничого; хай; дармо!)* Карскі і тут падбірае яркія, запамінальныя прыклады (*ночуйце на здороўе. Вам жешь своей хаты на одну ноч не будоваць.* Шейн. Мат. II, 361; *гдзе сала кініць, там людзей кішыць.* Ляц. Посл. 7).

Так і хочацца ўсклікнуць: які россып смарагдаў-клейнотаў, найкаштоўнейшых пярлінак народнай мудрасці!! Праўдзівы невычэрпны скарб, сістэматызаваны, прааналізаваны і раскладзены адным чалавекам. І на кожны прыклад — дакладная адсылка (бо іначай працу не назавеш навукай).

Як даваў рады гэтаму аўтар, як выглядала ягоная "творчая лабараторыя"?

Паводле ўспамінаў унукаў, Карскі запомніўся "чалавекам парадку, вялікай самадысцыпліны. У хаце ўсё зіхацела чысцінёй. Вопратка на ім была заўсёды акуратная, свежая. Устаўшы рана, апранаў белую кашулю, гарнітур, чаравікі, навязваў гальштук, і гэта на цэлы дзень, нават калі не ішоў ва універсітэт альбо ў Акадэмію. ...Рытм жыцця ў доме строга падпарадкаваўся яго рабоце як вучонага: уставалі рана, снедалі, дзядуля браўся за работу. Палуднавалі а другой гадзіне, у сем гадзін вечара — пілі гарбату".

"...У татавым кабінеце заўсёды панаваў строгі парадак. Ён дакладна ведаў, у якой шафе, на якой паліцы, на якім месцы патрэбная кніга, і мог узяць яе нават не гледзячы. Стол ніколі не быў завалены кнігамі і рукапісамі. На стале ляжала толькі кніга, патрэбная ў дадзены момант. Выключная памяць (тата і незадоўга перад смерцяй чытаў напамяць цэлыя раздзелы з твораў на старажытнагрэчаскай і лацінскай мовах) дазваляла яму без асаблівых пошукаў знаходзіць належнае выказванне таго ці іншага аўтара".

Парадак на стале сведчыў пра "парадак у галаве". Часам адна старонка "*Беларусаў*" утрымлівала больш за паўсотню прыкладаў. А тамы Карскага складалі да 400 старонак. Вось і назбіраюцца дзесяткі тысяч прыкладаў. Так закладваўся трывалы грунт, падмурак фундаментальнаму беларусазнаўству.

Імкненне да паўнаты ахопу матэрыялу прымусіла Карскага паставіць да заключнага мовазнаўчага выпуску падзагаловак "*Дополнения и поправки*", дзе разгледжаны не толькі прамінёныя ім даўнія выданні ("Евангелле учительное, напечатанное в Евье 1616 г."), але і дзесяткі сучасных беларусазнаўчых прац славістаў, гісторыкаў, выдадзеныя ў самыя апошнія гады ("Літва і Беларусь" Л.Васілеўскага, забыты артыкул Я.Чэрскага "*Падарожжа праз частку Вількамірскага павета, Курляндыю і Інфлянты ў месяцах ліпені і жніўні 1819 г.*", матэрыялы Рамуальда Зямкевіча, зборнікі А.Дэмбавецкага, В.Астаповіча, А.Пшчолкі, К. Анікіева, С.Малевіча, украінца Восіпа Бадзянскага, паляка А. Брукнера, чэхаў П.Шафарыка і Людвіка Кубы).

І тут пры аглядзе крыніц ці не ўпершыню акрэсліваюцца ўласныя грамадска-палітычныя погляды Карскага-грамадзяніна, ягоныя сімпатыі і антыпатыі. Ставячы ў віну першым легальным беларускім газетам "*Нашай Долі*" — "революционно-сепаратистическое направление", а "*Нашай Ніве*" — быццам у ёй "недостаточно ярко подчеркивается, что белоруссы такая же ветвь русского народа, как и великоруссы и малоруссы", вучоны амаль выключыў, паставіў сябе па-за рэчышчам нацыянальна-вызвольнага руху, бачачы ў родным краі не самастойны славянскі народ, а толькі адгалінаванне ад магутнага расейскага дрэва, якому раптам стала пагражаць пагібель.

Трагічны парадокс шмат у чым паглыбіў трагедыю ўласнага жыцця, бо менавіта працы Карскага як ніякія іншыя спрыялі нараджэнню "Маладой Беларусі" XX стагоддзя. Ужо нішто не магло адхіліць гэтую моладзь ад прагі ўбачыць родны край вольным, непаярэмленай імперскай ускраінай. А самога творцу ўжо нішто не магло адцягнуць ад грандыёзнай кнігі жыцця. У лісце да Уладзіміра Перцава (08.01.1914 г.) Карскім акрэслена: «Увесь вольны час я прысвячаю на "*Русский филологический вестник*" і на напісанне «*Белорусов*» (*т. III — Народная словесность*)». Першы выпуск "*Народная поэзия*" апошняга, трэцяга, тома (пад агульным загалоўкам *Очерки словесности белорусского племени*) паспеў выйсці да рэвалюцыі, але ўжо не ў Варшаве, а ў Маскве (1916). І цяпер больш чым праз 80 гадоў вяртаецца да масавага чытача, набліжаючы да нас каласальную спадчыну карыфея беларусазнаўства.

Наступныя выпускі — пераважна літаратуразнаўчыя — апошняга тома запазніліся з прычыны рэвалюцыйных віхур. Апошні выпуск апошняга тома "Белорусов" — *Художественная литература на народном языке*— пабачыў свет ў апошні месяц 1922 года ў колькасці 600 асобнікаў з благаслаўлення неадменнага сакратара Расійскай акадэміі навук С.Ольдэнбурга. Зрэшты, сёмы том "Беларусаў" мог выйсці значна раней, аднак хада рэвалюцыйных падзей перавярнула свет дагары. І трэба мець мужнасць, настойлівасць, вытрымку і цярплівасць Карскага, каб давесці сваю вялізазную працу да заканчэння. У томе прааналізаваны шляхі станаўлення новай беларускай літаратуры ад канца XVIII ст. да самых апошніх дзён перад выхадам кнігі. Часта ловіш сябе на думцы, што такі шырокі, аналітычны пералік аўтараў, пераважна малавядомых, можна сустрэць толькі на старонках Карскага: *Беларус Язэп, Бржэскі Міхалюк, Буйло Эдвард, Валюш Язэп, Вартавы Паўлюк, Вехаць Захар, Гаротны Адам, Гаротны Язэп, Дубровік З., Жакоўскі Р., Жыгалка А., Каласун Тышынскі А., Каравай Павал, Мяцёлка Міхась, Небарачэк Мікіта, Нядольны Геля, Сявец Якім, Таўрус Цюпа Юзік, Цягуновіч Адам, Шворан Сайка, Шымаоўскі Ст., Яцкевіч Модэст.* Шматлікія персаналіі, уведзеныя Я.Карскім у літаратуразнаўчы зваротак, меліся скласці матэрыял для будучага слоўніка беларускіх пісьменнікаў.

Ды ў жыцці склалася ўсё іначай. Да трагічнага.

"Сёмая кніжка "Беларусаў" Я.Карскага, нягледзячы на магічны ў народным уяўленні лік сямёркі, церабіла свой шлях надта няпроста і пры жыцці вучонага прынесла яму, напэўна, больш засмучэння, чым радаснай утрапёнасці ад завершанай працы. Як ніводнаму з ранейшых, гэтаму тому быў наканаваны цяжкі лёс уваходжання ў жыццё — ад праблемы з надрукаваннем да праблемы ўспрыняцця яе тагачаснай грамадскасцю"[3] .

У тым ёсць доля віны і самога акадэміка. У пасляслоўі апошняга тома Карскі выступіў не столькі ў іпастасі выдатнага навукоўца, колькі палітыка. А ў палітыцы, як вядома, раздаваць праўдзівыя прагнозы складана нават прафесіяналам. Належыць з жалем прызнаць: у сёмай кнізе "*Беларусаў*" Яўхім Карскі "больш, чым у якіх іншых тамах сваёй капітальнай працы, дапусціў недакладнасцяў, а то і памылковых уяўленняў. Але яго памылкі — памылкі вялікага вучонага і іменна ў гэтым сэнсе нясуць у сабе асаблівую карысць. Наперакор выбранай для сябе афіцыёзнай дактрыне аб "истинном общерусском происхождении" народа і культуры беларусаў Я. Карскі сцвердзіў нешта іншае: творчасць, народны дух унікальныя, іх каштоўнасць у тым і заключаецца, што яны — не падобныя і не паўтараюць суседзяў, ніадкуль не прывезеныя і не перасаджаныя штучна на родную глебу"[4].

Капітальная праца, здзейсненая тытанам навукі, перарасла ягоную асабістую, жыццёвую, хай сабе і волатаўскую плоць. А тым больш уласныя палітычныя прыхільнасці, погляды. Хаця... Ці стала сёмая кніга "Беларусаў" завяршэннем усёй працы, якая паўставала перад пільным і прагным да стваральнай працы поглядам навукоўца? Ясна, што не. Пра гэта выразна сведчыць кожны сказ прадмовы да апошняй кнігі гіганцкага даследавання. Буйнымі абзацамі-блокамі аўтар накідаў план-праспект будучай працы для наступных пакаленняў. Чацвёртым томам «Беларусаў», на думку вучонага, павінен стаць «Слоўнік беларускай мовы».

Ды савецкая ўлада чым больш умацоўвалася, тым менш мела патрэбу ў сапрадных навукоўцах. Найбольш да пераследаў слыннага акадэміка спрычынілася савецкая рэчаіснасць, калі публікацыямі ў менскай "*Звяздзе*", а потым і сталічнай "*Правде*", у здзекліва-пагардлівым тоне была высмеяна навуковая вандроўка Карскага па славянскіх краінах.

Ад слова горш балюча, чым ад рук. Найбольшай "мастацкасцю", гэта значыць з'едлівай фельетоннасцю, бессаромнай падтасоўкай фактаў вызначаўся артыкул журналіста "*Правды*" Міхаіла Кальцова (псеўданім Мойшы Фрыдлянда). "У былыя часы, пры знакамітым царскім міністру асветы Касо, Карскі быў рэктарам Варшаўскага універсітэта, што з'яўляўся галоўным асветным цэнтрам прымусовага абрусення..."[5]. На першы погляд яно так, але паводле сямейнай легенды, пераабраны на новы тэрмін рэктара ў 1908 годзе, Карскі неўзабаве адмовіўся ад гэтай пасады якраз у знак пратэсту супраць самавольства рэакцыйнага міністра Касо.

Рана загоіцца, а ліхое слова ніколі. Нават сэрца такіх асілкаў, як у Яўхіма Карскага, не вытрымлівала несправядлівых удараў, абылгання і фальсіфікацыі. Яно спынілася 29 красавіка 1931 года, калі савецкую імперыю ўжо ахапіла прадчуванне крывавай чумы.

Спадчына Карскага непараўнальная сярод іншых ягоных шматлікіх калег, імя якім — славісты.

Многія яго даследаванні з'явіліся асновай, трывалым падмуркам для беларускага мовазнаўства. І што гэта мы за народ, каб да пачатку XXI стагоддзя так і не перавыдаць на Беларусі усю спадчыну знакамітага карыфея славістыкі. Дык пра якое асэнсаванне, усеабдымнае і глыбокае, можа ісці гаворка? Толькі пра павярхоўнае знаёмства.

Калумб беларусазнаўства яшчэ чакае свайго праўдзівага біёграфа і даследчыка.

"Не думаў заснавальнік беларускага мовазнаўства і філалогіі Яўхім Карскі, ні яго дзядзька Іван Карскі, што іх родная Лаша трапіць у лік неперспектыўных, што яна пазбавіцца ад людзей, знямее. Закрыта школа, што насіла імя акадэміка Я.Ф.Карскага, ліквідаваны мемарыяльны музей. У былой школе, з мемарыяльнымі дошкамі на сценах, жывуць нейкія людзі. Не звініць школа, як раней, дзіцячымі галасамі. Усё знямела, прыціхла..."[6]

Не дай Бог, каб і ўвесь наш народ напаткала доля, што і радзімую вёску Карскага.

Але дакуль будзе жыць мова, наогул пісьменства, працы Карскага будуць сведчыць за нас і пра нас пад любым найменнем — *беларусаў, крывічоў, літвінаў, русінаў, палешукоў, тутэйшых, чарнобыльцаў*. Бо вучоны уласным лёсам задэманстраваў: няма такога імя, якое нельга ўславіць; без розніцы, ці ходзіць пра выбар асобнага чалавека ці найменне цэлага народа (абы, як кажуць, у печ не пхнулі).

Сведчыць не адно стагоддзе-тысячагоддзе. Пакуль не згасне сонца. Сонца, якое праз хмары цёмныя праглянула над нашаю нівою.

І давеку будзе свяціць над намі адзін з магутных жыццядайных промняў, што праўдзіва ўвасабляе светач навукі на беларускім небасхіле— Яўхім Карскі.

---

*[1] З успамінаў унучкі Я. Карскага — Тацціяны Сяргееўны Карскай.*

*[2] Некаторыя навукоўцы памылкова лічаць, быццам першы том выйшаў на пачатку 1903 года ў Варшаве (Карская Т. Эпистолярное наследие академика Е.Ф.Карского / / Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1982. № 1). Іншыя "дапаўняюць" памылкі, сцвярджаючы, што ў тым самым 1903 г., апроч варшаўскага выдання, быў асобны адбітак у Вільні.*

*[3] Жук Ігар. Сустрэчны рух: Літаратуразнаўчыя эцюды. Гродна: Абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры, 1998. С. 34.*

*[4] Тамсама. С. 38.*

*[5] Кольцов М. И академик, и герой. "Правда". 1927, 13 мая.*

*[6] Цыхун Апанас. Карскі — дзядзька Карскага "Літ. і мастацтва". 1994. 11 сак.*

Хведар ЖЫЧКА

# Пісьменнікі — людзі дасціпныя

НІБЫ ЎСПАМІНЫ

### "Хлопчык, злезь з прылаўка!.."

Малады Мікола Гамолка быў высокі, хударлявы, з дробненькім тварам. У нейкім магазіне, куды гурмой зайшлі пісьменнікі, прадаўшчыца гучна крыкнула на яго:

— Хлопчык, злезь з прылаўка!

У прыцемку яна не разгледзела, што гэта дарослы, думала, нейкі падшывалец хоча штосьці схапіць з паліцы.

Усе зарагаталі. А потым доўга падсмейваліся з Гамолкі, паўтараючы гэтае: "Хлопчык, злезь з прылаўка!"

### "Цікава!.. Цікава!.."

Той жа Гамолка, прыехаўшы з брыгадай пісьменнікаў у Мазыр на сустрэчу з чытачамі, на базары пытаўся ў жанчын, якія нешта прадавалі:

— Цётка, а гэта што?

— Певень, сынок, певень, — адказвала яму жанчына.

— Певень? — здзіўляўся Гамолка. — Цікава! Цікава!

Ішоў далей і зноў пытаўся:

— А гэта што?

— Гурочкі, сынок, свежанькія, салодкія.

— Гурочкі? — зноў здзіўляўся Мікола. — Цікава! Цікава!

### "Апрані і пня..."

Зімой 1952 года я адпачываў у доме творчасці "Каралішчавічы". Там жа з сям'ёй адпачываў і Міхась Ціханавіч Лынькоў. Сам ён дапісваў "Векапомныя дні", рэдка выходзіў з нумара, а жонка яго Соф'я Захараўна далучалася да мужчынскага таварыства. Аднойчы яна ішла са сталоўкі з Міколам Засімам. Апранутая ва ўсё моднае, дарагое, яна з выклікам спыталася:

— Мікалай Арцёмавіч, а я — прыгожая?

— Вельмі прыгожая, — адказаў той і, прайшоўшы некалькі крокаў, дадаў: — Урэшце, апрані пня і пень будзе прыгожы.

Соф'я Захараўна рванулася наперад, прыбегла ў корпус, упала на канапу, захлынаючыся ці то ад смеху, ці ад крыўды:

— Ну і камплімент сказаў мне Мікалай Арцёмавіч!

### Пераўвасабленне...

Было гэта яшчэ пры Хрушчове. На нарадзе перакладчыкаў хтосьці з трыбуны заклікаў перакладчыкаў вучыцца пераўвасабляцца, маўляў, без пераўвасаблення нельга данесці да чытача аўтарскай задумы... За ім выступіў Дзмітрый Кавалёў, рэзка заявіў:

— А ці не хопіць нам пераўвасабляцца? Народ не пераўвасаблення ад нас чакае, а голай праўды. І не дачакаўшыся яе ад нас, сам сачыняе. Вось якая частушка гуляе па свеце:

*Есть в колхозе*
*птицеферма*
*И другая строится,*
*А колхозник видит яйца,*
*Когда в бане моется.*

А мы пераўвасабленнем карміць яго хочам!...

### "Не пісьменнік — дзядзька..."

Паехалі пісьменнікі на рыбалку. У вясковых хлапчукоў пытаюцца:

— Кніжкі чытаеце?

— Чытаем.

— А якіх пісьменнікаў ведаеце?

Маўчаць.

— Ну, Шахаўца чулі?

— Не.

— А Ляўданскага?

— Не.

— А Багушэвіча?

— Багушэвіча вучылі. Ён напісаў верш "Дурны мужык, як варона..."

— Правільна. Той Багушэвіч даўно памёр, Францішкам яго звалі... А Юрку Багушэвіча не чулі?

— Не, не чулі.

— Дык вось жа ён перад вамі стаіць, — паказваюць на Юрыя Канстанцінавіча Багушэвіча.

— Пісьменнік? Багушэвіч? — здзіўляюцца хлопцы.

— Не, гэта — не пісьменнік, гэта — дзядзька.

### "Дзядуля Хо выйшаў з фанзы..."

У дом творчасці "Каралішчавічы" Юрый Багушэвіч прыехаў, як і ўсе творцы, пісаць. У сваім нумары ён паклаў на стол чысты ліст паперы, акуратна вывеў на ім прыгожым сваім почыркам першы сказ задуманай аповесці пра барацьбу в'етнамскага народа супроць замежных інтэрвентаў: "Дзядуля Хо выйшаў з фанзы..." За дваццаць чатыры дні адпачынку да гэтага сказа не было дапісана ніводнага слова.

Перад ад'ездам у нумар зайшоў Рыгор Няхай, зірнуў на той лісток, здзекліва спытаўся:

— Так і не вярнуўся?

— Хто, куды?

— Ды твой дзядуля Хо. У фанзу.

### "У ролі манекена..."

Жанчыны ўгаварылі рэдактара выдавецтва "Беларусь" Мікалая Цімошака сфатаграфавацца ў світэры, які часопіс "Работніца і сялянка" рэкамендаваў сваім чытачкам звязаць для мужа. Часопіс з фотаздымкам паказалі дырэктару выдавецтва Захару Пятровічу Матузаву. Той паглядзеў, крутнуў галавой:

— Першы раз бачу рэдактара ў ролі манекена...

### "Тры яйцы"

Перад абедам на калідоры выдавецтва хлопцы вырашылі купіць пляшку і пайсці на кватэру да Мікалая Цімошака, які жыў непадалёк і адзін. Але ці знойдзецца ў яго закусь?

— Я пытаўся: кажа, акрамя хлеба ёсць і тры яйцы, — паведамляе Уладзімір Шахавец. — А нас чацвёра ды ён — пяты. Трэба нешта прыкупіць. Гэй, Саня! — гукнуў ён Алеся Шлега. — Скокні ў гастраном, вазьмі бохан хлеба, колца кілбасы, кількі якой... Ды ў Цімошака тры яйцы...

Міма праходзіла тэхрэд Вера Новікава, пачула апошнія словы, пабегла да сяброваў у карэктарскую ўдакладняць: ці добра гэта, калі ў мужчыны тры яйцы, чаго ад такога можна чакаць?..

Так і пайшла пагалоска, што ў Цімошака — тры яйцы.

### "У нас — жываты..."

Брыгада супрацоўнікаў часопіса "Вожык" на чале з рэдактарам Уладзімірам Корбанам паехала ў Барысаў расследаваць нейкую калектыўную скаргу чытачоў. Начальства той установы, на якую была скарга, баялася, каб журналісты не зняславілі іх на ўсю рэспубліку, набівалася на добры пачастунак, намякала, што пара і паабедаць, запрашала ў рэстаран.

— Не, — адмаўляўся Корбан. — Не можам.

— А чаму?

— У нас — жываты...

— А-а-а, — спачувальна ківалі тыя галовамі. — Цяпер гэта не рэдкасць... Але ж мы нічога такога... Заказаце тое, што вам можна, пасядзім, пагамонім...

— Хіба што так, — згадзіўся Корбан, і яго сябры заківалі галовамі.

Пайшлі. За сталом гаспадары неўпрыкмет напоўнілі чаркі, вядома, не ліманадам. Вожыкаўцы таксама зрабілі выгляд, што нічога не заўважылі, неўпрыкмет перакулілі тыя чаркі. Пайшло весялей: загаманілі, заляскалі відэльцамі, і гаспадары, і госці куялі чаркі за чаркамі. Хтосьці з гаспадароў сказаў:

— Во, а казалі — жываты...

— Правільна казалі, — усміхнуўся Корбан і паляпаў даланёй па сваім, як бочка, жываце. — Папярэджвалі вас, што нашы жываты насыціць вам будзе нялёгка.

### "Слуцкай шляхты адстаўнік..."

Аляксей Кулакоўскі за надрукаванне сваёй, як тады казалі, заганнай у ідэйных адносінах аповесці "Дабрасельцы" быў зняты з пасады галоўнага рэдактара часопіса "Беларусь". Яго сябры ўладкавалі "выгнанніка" ў апарат Саюза пісьменнікаў намеснікам адказнага сакратара. Аляксей Мікалаевіч акрыяў, а стаўшы сакратаром партыйнай арганізацыі, пачаў наводзіць парадак: каб хлопцы ў рабочы час не гулялі ў більярд, хаваў шары і кіі, праганяў курцоў з калідора і наогул чапляўся да ўсіх, хто нічога не рабіў, бадзяўся. Анатоль Вялюгін сачыніў на яго такую эпіграму:

*Мы ў Саюз зайсці*
*хацелі,*
*ды сядзіць*
*там вартаўнік —*
*Кулакоўскі-Дабраселец*
*слуцкай шляхты*
*адстаўнік.*

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

## У Доме літаратара

**17 студзеня,** бібліятэка СБП. Літаратурная сустрэча, прысвечаная творчасці Міхася Зарэмбы.

**18 студзеня, 13.00,** бібліятэка СБП. Да 65-годдзя Анатоля Кудраўца.

**19 студзеня, 15.00.** Пасяджэнне бюро секцыі публіцыстыкі і нарыса. Абмеркаванне творчасці маладых.

**19 студзеня,** канферэнц-зала. Пасяджэнне бюро секцыі паэзіі.

**25 студзеня,** бібліятэка СБП. Літаратурная сустрэча, прысвечаная творчасці Міхася Пазнякова.

**29 студзеня, 15.00.** Пасяджэнне бюро секцыі прозы. Агляд кніжак прозы "Бібліятэкі часопіса "Маладосць".

**30 студзеня, 18.00.** Вялікая зала. Да 80-годдзя Івана Шамякіна.

**31 студзеня,** бібліятэка СБП. Літаратурная сустрэча, прысвечаная творчасці Валянціны Куляшовай.

## Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зніч"

**У касцёле св. Сымона і св. Алены (пл. Незалежнасці, 15)**

**Студзень, 2001**

*15, панядзелак, 18.00.* "Не праклінай, што я люблю..." — монаспектакль паводле вершаванага рамана "Родныя дзеці" Н. Гілевіча. Выканаўца — Мікола Лявончык.

*19, пятніца, 19.00.* Канцэртная зала Белдзяржфілармоніі. Прэм'ера "Адзінокі птах" — Алег Залётнеў, рамантычная монаопера ў 2-х дзеях аб жыцці і смерці Адама Міцкевіча (паводле твораў А. Міцкевіча, Я. Чачота, Р. Барадуліна). Выканаўца — з. а. Беларусі Віктар Скорабагатаў.

*22, панядзелак, 11.00.* "Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага" (П. Васючэнка, С. Кавалёў) — лялечны монаспектакль.

*Вечар, 19.00.* "Кроткая" (Ф. Дастаеўскі) — монаспектакль па аднайменным творы ў перакладзе А. Каляды. Выканаўца — з. а. Беларусі Уладзімір Шэлестаў.

*23, аўторак, 19.00.* "Зоры, вецер, імгненне..." Прэзентацыя кніг Людмілы Рублеўскай і Віктара Шніпа. У праграме: адкрыццё выставы "Другая муза" (мастацкая творчасць пісьменнікі Л. Рублеўскай, М. Вайцяшонак, Л. Сільновай).

*29, панядзелак, 12.00.* "Маленькі анёлак" (С. Кавалёў) — монаспектакль паводле вершаў Кармэн Барнес дэ Гаштольд. Выканаўца — Раіса Астрадзінава.

*Вечар, 19.00.* "Нобіль — Барвяны ўладар" (У. Караткевіч) — монаспектакль паводле аповесці "Сівая легенда". Выканаўца — з. а. Беларусі Уладзімір Шэлестаў.

*Мастацкі кіраўнік тэатра "Зніч" — Галіна Дзягілева.*

*У раскладзе могуць адбыцца змены.*

**Даведкі па тэл. 231-75-53.**



*Белыя вершы...*

*Фота М. АНІШЧАНКІ*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ —** *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь ГАЎРОН —** *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП —** *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856
Наклад 2865
Нумар падпісаны ў друк 4.1.2001 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 47

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12